# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

— ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ —

№ 6 1925



ЛІТ. ПРАФШКОЛЫ, МЕНСК.

# НАША ЧАРГОВАЯ ПРАЦА.

Наша організацыя нядаўна адсьвяткавала свой трохгадовы юбілей. Кожны атрад у гэты час прагледзеў і падвёў падрахункі сваёй працы за мінулы пэрыод жыцьця атраду. У зьвязку з гэтым выплывае неабходнасьць нам намеціць плян далейшай працы, падумаць і абгаварыць пытаньне, што нам рабіць далей.

### Унутры атраду.

Перш за ўсё трэба дабіцца таго, каб усе піонэры дасканала выконвалі законы і звычаі, чаго мы яшчэ ў поўнай меры ня мелі да гэтага часу, трэба падумаць усім піонэрам над сваёй акуратнасьцю. Здараецца так, што піонэры найчасьцей за дурам ходзяць забруджанымі, абарванымі, або неакуратныя ў працы, якую ім даручаюць у атрадзе. Гэта трэба старацца як найхутчэй выжыць у жыцьці атраду.

Часта наглядаецца ў атрадах бесколектыўнасьць з боку дзяцей у працы, або ў жыцьці наагул. Трэба помніць свой 3-ці звычай. Напасьледак яшчэ большую ўвагу трэба зьвярнуць на выхаваўчую працу. Трэба старацца выхоўваць з піонэраў людзей у будучым карысных і незаменных працаўнікоў Савецкай улады. Бывае так, што піонэры прывыкаюць на зборах і ў атрадах сваіх гаварыць і вырашаць справы абы як, абы пагаварыць, хоць зусім гаворка і пустая.

На гэта таксама патрэбна зьвярнуць ня меншую ўвагу.

### Па-за атрадам.

У гэтай галіне працы шмат маецца недахопаў. Найчасьцей піонэры замыкаюцца ў межах свайго атраду і зусім ня цікавяцца тым, каб уцягнуць у сваю працу ўсю іншую масу неорганізаваных дзяцей. Так рабіць няможна ні ў якім разе. Трэба абавязкова старацца ўцягваць у працу і ўсіх неорганізаваных яшчэ ў атрады дзяцей. Тут пажадана-б было кожнаму піонэру прыпомніць 3 і 4-ы законы. Больш гульняў, гутарак, экскурсій з дзяцьмі яшчэ неорганізаванымі. „Піонэр усім дзецям прыклад“—аб гэтым павінен помніць кожны піонэр.

### На фізкультуру і аздараўленьне

за апошні час шмат зьвернута ўвагі. Але самі піонэры далёка ня ўсёды выконваюць сваю справу ў гэтым баку. Піонэры яшчэ ня ўсе дасканала глядзяць за чыстатою свайго цела і за чыстатою памяшканьня для заняткаў і жыцьця. Трэба пастарацца дабіцца таго, каб кожны піонэр адзін за другім сачыў, як хто сябе трымае ў адносінах чыстаты. Больш весьці заняткі і гульні на свежым паветры. *„У здаровым целе—здоровы дух“*—гэтага забывацца няможна.

Вось прыблізны плян працы ў адзначаных намі трох галінах. Аб другіх галінах працы будзем гутарыць у чарговым нумары.

---

## ЗЬМЕСТ:



Галоўлітбел № 10572

Менск, 2 друк. БДВ. № 3636. (2000)




ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКОМАСЬВЕТЫ БССР

— АДРАС РЭДАКЦЫІ: —
Менск, Пляц Волі, Наркомасьветы БССР,
тэлефон № 443.

**№ 6. ЧЭРВЕНЬ 1925 г.**



# НАШ ЮБІЛЕЙ.

*(Артыкул старшыні ЦБ ЮП Беларусі т. Мэрзон).*

20 чэрвеня мы адсьвяткавалі свой 3-ох гадовы юбілей. Гэтага сьвята з нецярплівасьцю кожны з нас чакаў і рыхтаваўся да яго. І ня дзіва—гэта-ж наша піонэрскае сьвята. Здаецца, так мала прашло часу, як зарадзілася наша організацыя, а пераглядаеш свой шлях і шмат чаго знаходзіш цікавага і каштоўнага, чаго нельга абысьці моўчкі.

Цяпер наша організацыя досыць вялікая—40.000 піонэраў гораду й вёскі. Мы маем 800 атрадаў, з якіх: 297 у вёсцы, 144 у мястэчках і іншыя ў горадзе. Вырасьлі мы таму, што хутка змаглі прывіцца і распаўсюдзіць свой уплыў на неорганізаваную дзетвару і на бацькоў сваіх. Мы паказалі ўсім, што наша організацыя не на пустое гуртуецца ў атрады і працуе там, а для таго, каб стаць добрымі будаўнікамі сваёй Савецкай краіны.

Цяпер піонэраў ведаюць усе. Кожнае дзіця імкнецца цяпер стаць піонэрам. Мы шырока распачалі працу сярод гэтых дзяцей, дапамагаючы такім чынам комсамолу і партыі выхоўваць новую зьмену ў духу комунізму.

Усю гэтую працу мы правялі дзякуючы таму, што намі кіравалі і дапамагалі ў працы комсамол і партыя. Вось чаму наша сьвята зьяўляецца сьвятам і комсамолу і партыі. Комсамол праверыў у дзень нашага юбілею сваю і нашу працу. Наша праца не загінула дарма. Аб гэтым мы можам з гордасьцю заявіць сваім бацьком—рабочым і сялянам. А ўсяго толькі тры гады, як працуем. Здаецца, зусім гэта было нядаўна, як каля памяшканьня ЦК Комсамолу Беларусі ў першы раз сабралася кучка дзяцей, якая прышла прасіць комсамол організаваць іх ў комсамол, або комуністыя. Гэта была першая група дзяцей, якая заложыла падваліну нашай організацыі. Між гэтых дзяцей і другіх раней ужо распачаў працу комсамол, і таму яны і зьвярнуліся да яго з просьбаю організаваць і іх. З гэтых дзяцей комсамол організаваў групу, якая называлася *дзіцячай комунай*. Ім далі клюб, і такім чынам распачалася праца дзяцей комунараў пад кіраўніцтвам комсамолу. Але комсамол не задаволіўся організацыяй толькі аднэй групы. Хутка былі вылучаны і падрыхтаваны на спэцыяльных курсах лепшыя сябры комсамолу, якія ўзяліся за справу організацыі дзіцячага комуністычнага руху.

У першых часох жыцьця нашай організацыі праца вялася зусім нездавальняюча. Дзеці займаліся амаль-што выключна гульнямі і песьнямі. І толькі пасьля вырашэньня пытаньня 6-ым зьездам КСМБ аб пляне працы нашай організацыі мы значна зразу шагнулі наперад.

Мы распачалі паглыбленую працу між дзяцей неорганізаваных у школе, дома, хадзілі ў вёску, дзе праводзілі гутаркі з дзяцьмі. Гэта апошняе і дапамагло разьвіцца і прасунуцца нашай організацыі ў вёсцы і мястэчку.

Асабліва цікавым момантам зьяўляецца ў нашай гісторыі—гэта найменаваньне нашай організацыі імем *Леніна*. З гэтага часу на нас усклалася больш адпаведнасьці за сваю працу. Мы пачалі ўзмацняць выхаваўчую працу, вывучаць біографію Леніна, яго жыцьцё і працу і будаваць сваё жыцьцё і працу так, як жыў і працаваў вялікі настаўнік пролетарыяту Ленін.

Раней нашы піонэры называліся спартакаўцамі. Спартак гэта быў адным з тых людзей, якія баранілі інтарэсы прыгнечаных паднявольнікаў і сьмела умiралі, бароначы іх. Забілі Спартака за яго сьмеласьць выступаць на абарону бедных і паднявольных. Піонэ-

ры і ўзялі спачатку сабе гэта імя ў адзнаку таго, што і яны таксама павінны змагацца, не шкадуючы свайго жыцьця за лепшае жыцьцё працоўных.

Але калі памёр т. Ленін, мы з дазволу партыі і комсамолу пачалі называць сваю організацыю яго імем.

Піонэры ля магілы т. Леніна цьвёрда пакляліся, што яны будуць выконваць заветы Ільліча, за што партыя і комсамол дазволіў нам насіць імя т. Леніна.

З гэтага часу наша праца пачала гуртавацца вакол заветаў Ільліча, дапамагаючы партыі і комсамолу ў гэтай-жа працы.

Для большай пасьпешнасьці ў нашай новай працы, комсамол і профсаюзы Беларусі ў бягучым 1925 г. назнарок скліканых для гэтай мэты нарадах ухвалілі нам, як задачу, распачаць працу між дарослых, а галоўным чынам--дзяцей, якія яшчэ ня могуць быць у нашай організацыі. Узмацніць рост піонэраў у вёсцы, каб піонэры дапамагалі комсамолу ў яго штодзённай працы. Такім чынам, характар нашай працы некалькі мяняецца. Мы ўжо ня толькі дапамагаем комсамолу і партыі ў правядзеньні юбілеяў, а і бяромся за сталую сыстэматычную працу (у хаце-чытальні, між неорганізаваных дзяцей і наагул там, дзе можам прынесьці карысьць).

Вось прыблізна наш шлях і праца за 3 гады. Але наперадзе яшчэ шмат і працы, і задач. І аднэй першаю задачаю, вечна новаю будзе для нас заўсёды— гэта працаваць паленінску, ніколі не забывацца, што мы носім яго імя.

Быць прыкладам усюды, помніць, што па гэтым будуць мераць нашу і працу, і сталасьць--гэта другая наша задача. Павялічваць рост атрадаў за кошт дзяцей рабочых і сялян, дапамагаць вясковым дзецям організавацца і працаваць, трымаць сувязь з комсамолам і партыяй, куды мы рухтуемся, умацоўваць сваё здароўе, організоўваць свой час—гэта трэцяя наша задача.

У нашых законах і звычаях аб усім гаворыцца. Трэба толькі не забывацца аб іх.

Кожны з дзяцей, хто імкнецца стаць піонэрам, павінен блізка азнаёміцца з піонэрскаю працаю і жыцьцём, дапамагаючы ў працы піонэраў.

Наш лёзунг—*заўжды гатоў*—павінен паказаць усім працоўным, комсамольцам і комуністым, што імя Леніна мы нясём не задарма, што мы гэтага варты.

*Дзіна Мэерзон.*

# ПЕСЬНЯ 4-ай ВЯСНЫ.

Раз, два, раз!..
Гэй-жа ўраз
Ўскаланецесь, палі,
Паднявольнай зямлі!
Разнімайся наш кліч:
Жыў сусьветны Ільліч!
Барабан, наш буян,
Завіхры, як ураган,
Загрымі, як гром вясны,—
Мы комуны сыны.
На чацьверты наш год:—
Шырай, шырай карагод!
Годзе спаць нам, гуляць,
Піонэраў сям'я.

Ўсьлед за братам сваім
Комсамолам стальным.
Разьнімайся наш кліч:
Жыў сусьветны Ільліч!
Мы ўстаём ад зары
Новы сьвет свой тварыць.
На чацьверты наш год:—
Шырай, шырай карагод!
Дзеці фабрык, палёў,
Дружна песьню сьпяём.
Разнімайся наш кліч:
Жыў сусьветны Ільліч!

*А. Якімовіч.*



# ПЕРАРАДЗІЛІСЯ.

*(Апавяданьне).*

I

Далёка ад гораду, між непраходных балот і пушчаў, распасьцерлася глухая вёска Кляновікі. Аднастайнае і нуднае жыцьцё ў гэтай вёсцы: учора, як сягоньня, а сягоньня, як заўтра... Нішто, здаецца, ня можа парушыць ціш заплясьнелага жыцьцёвага балота...

Вёска—двароў сотню, а мо' й таго больш; ані клюбу, ні хаты-чытальні, ні школы—няма. А ўжо пра ячэйку комсамолу ці піонэраў і гаварыць ня прыходзіцца!.. Ня ведаю, ці чула аб гэтым калі моладзь?

Ды к гэтаму яшчэ бяднота вялікая: бота вёска ня бачыць, паркалёвая рубашка—дзіва...

Ну, як водзіцца: дзе пануе няпісьменнасьць, бяднота, гразь—там і рэлігійныя забабоны з папом на чале гуляюць ва ўсю, як кажуць. Аб рэволюцыйных сьвятах ніхто нічога ня ведае. Усёроўна, як іх ніколі ня было і няма. Затое кожнае хоць і маленькае сьвятца: Мікола, Юр'я, Ганны—ведаюць усе і сьвяткуюць усе шчыра...

А вясковыя дзеці прасьветлай гадзіны ня маюць: ледзь толькі ад зямлі падымецца—нянькаю становіцца свайго меншага брата ці сястры, цераз некалькі год—сьвінапас, потым бярэ каманду над каровамі і з гадоў чатырнаццаці бярэцца за плуг і касу; ноччу—начлег.

Узімку хоць і работы пякучай такой менш, але ніколі не сядзяць злажыўшы рукі... А дзяўчатам—яшчэ горш: ад пастуха--да жняі, ад жняі да—красён і кудзелі, пакуль ня замуж. А замуж выдзе—паправіцца трэба...

Здароўе вымае...

Хто яго ведае, можа гэтак цягнулася-б і далей, можа гэта вёска і ніколі сьвету ня ўбачыла-б, каб не адно здарэньне, якое перавярнула ўсё жыцьцё-быцьцё гэтай трухлявай вёскі дагары нагамі.

II

Вясна нараджалася. Зашчабяталі птушкі, у лісьцё зялёнае аксамітнае лес увабраўся, лугі кветкамі замітусіліся...

З двароў гаспадары павыяжджалі на поле, зямлю плугамі кратаюць...

І раптам нечакана (ніколі-ж гэтага ня было!) у вёску Кляновікі людзі новыя панаехалі, вайсковыя. Конныя і пешыя.

Бабы—у голас, дзеці—на печ... Рэволюцыя, адным словам, у вёсцы! А чырвонаармейцы кватэры папісалі і на стаянку разьмясьціліся. Потым к жыцьцю вёскі сталі пільней прыглядацца...

— Эх, і мядзьведжы-ж вугал ў вас...—часта гаварыў сабраўшымся сялянам камандзір.

А сяляне, насупіўшы вочы ў зямлю, нібы адчуваючы сваю віну, барматалі:



...Ат, жывем неяк...

— Ат, жывём неяк, дзякаваць богу!.. Неча бога гнявіць, пакуль што добра: з бульбы на квас перабіваемся!..

Дзівяцца чырвонаармейцы, ніяк зразумець ня могуць, што тут у нашай краіне захавалася яшчэ такая мясьціна, дзе ня бывала нага культурнага чалавека...

— Ну, а школа ў вас ёсьць?..

— А навошта яна нам? І так добра!.. Хто-ж хлеб будзе рабіць, як усе граматнымі будзем?

А потым дабаўлялі:

— Школа то ёсьць, праўду сказаць, але вярсты тры ад нас будзе, дык мы дзяцей туды і не выпраўляем!

— Ну, дык а як-жа?..

— Ды так!

Больш гаварыць ня прыходзілася. Відаць ужо было чырвонаармейцам, што тут людзі яшчэ ад дзікуноў мала адышлі. Але адзін з іх яшчэ запытаўся:

— Ну, вядома, і комсамольскай ячэйкі і піонэраў у вас няма?

— Якой гэта яшчэ кастамолавай абячэйкі?—зьдзівіліся сяляне і шырока расплюшчылі вочы.

Зарагатала грамада чырвонаармейцаў, і сьмех іх рэхам пакаціўся па пушчы... Ухмыляліся ва весь рот і сяляне...

— Ну, трэба пачаць тут культурную працу, і пачаць не абы як!..—гаварыў камісар на разыходзе з сваімі таварышамі.

III

Якія самі—такія й сані, якая вёска—так і людзі ў ёй жывуць. Бяднота. Няма ніводнай хаты прасторнай, чыстай—курнікі.

Разьбілі чырвонаармейцы палатку ленінскую, ухарошылі яе малюнкамі рознымі, плякатамі, портрэтамі, кніжкамі...

Амаль ня кожны вечар у палатцы музыка грыміць... У такі вечар сяляне ўсёй вёскі ідуць у палатку.

— Сястрыца-ж ты мая!?—дзівяцца суседкі—у гэтай ленінскай, ні раўнуючы, як у цэркві!..

— Праўда!.. То дальбог!

А між іншым, апрача музыкі, і лекцыі розныя пашлі: і аб сельскай гаспадарцы, і аб богу, адкуль сьвет і чалавек зьявіўся і шмат чаго цікавага гаварылі там... Спачатку сяляне і слухаць не хацелі, а потым:

— Таварыш камісар, раскажы нам адкуль бог узяўся?.. Адкуль чалавек? Адкуль зямля?... І не пералічыць. Дый на папа забыліся ўжо сяляне.

Ну, вядома, дзе музыка ды такі тлум, гармідар—там і дзеці. І шмат іх зьбіралася кожны вечар, абы толькі каровы дамоў—так і бягом у Ленінскую. Па прывычцы ўжо. На прывязі ня ўтрымаеш.

І вось у адзін вечар стаў камісар гаварыць аб значэньні комсамолу і піонэраў...

Шмат было пытаньняў, а яшчэ больш спрэчак, а нарэшце ўхвалілі сходам:

— У вёсцы Кляновікі арганізаваць піонэрскі атрад і ячэйку...

Круцёлкай захадзілі дзеці, на аднэй назе заскакалі і запелі:



Круцелкай захадзілі дзеці...

— Эх я рад, эх, я рад—
Будзе ў нас ужо атрад...

Самы весялейшы хлапец Васіль скакаў на аднэй назе і выцінаў створаную ім самім частушку.

І піонэрскі атрад організаваўся...

IV

У адзін дзень вясною, калі чырвонаармейцы надзвычайна ўхарошылі і палатку, і хаты сялян, тады, на парадзе, усім піонэрам былі раздадзены чырвоныя гальштукі і значкі... Васіля павадыром выбралі. Гэта было 1 мая. І атрад ад гэтага назвалі «Першамайскім». Усе вясковыя дзеці запісаліся ў піонэры. Ну, і пашла-ж тады праца!

Трэба праўду сказаць: кіраваў усёй працай атраду камісар, але ў гэты час вучыліся ўсе піонэры, вучыўся й Васіль, як самому патом кіраваць працаю атраду без дапамогі камісара.

Сталі дзеці грамаце вучыцца. Чырвонаармейцы вучылі іх гімнастыцы. З другой вёскі дзеці прыходзілі ў Кляновікі, дзівіліся:

— Вось вы як?! А ў нас гэтага няма!..

— Пачакайце, будзе і ў вас! Организуем і ў вашай вёсцы!..

Надыходзіла восень.

Піонэры разам з комсамольцамі, якіх багата ўжо было ў вёсцы Кляновікі, сталі тлумачыць сваім бацьком і ўсім сялянам, што школу ў вёсцы трэба збудаваць.

Некаторыя піонэры, дык сваім бацьком пагразілі:

— Калі вы не дапаможаце будаваць школы, дык мы рабіць нічога ня будзем!..

— Вучыцца хочам... вось што!..

— Смаркач!.. Пад носам папрэла, а ён школу, школу...—сварыліся бацькі.

— Дык мы тады капліцу пераробім на школу!..



— С-с-с-у-к-і-і-н сы-ы-н!..

— С-с-с-у-к-і-і-н сы-ы-н!.. О-го-го... Я цябе зараз як перараблю вось гэтай папружкай, дык і дзесятаму закажаш!..

Але як ні гаварылі, спрачаліся, а к восені закрасавалася школа новая ў Кляновіках. Прыслалі зараз-жа і настаўніка. Закіпела праца.

К «калядам» піонэры і спэктакль у сваёй школе наладзілі.

— Хоць і ня бачылі ніколі гэтага спэктаклю, але сыграць павінны добра!..—казаў сваім «артыстам» Васіль.

— Будзем гатовы!..—адказвалі піонэры.

Усе сяляне былі на спэктаклі і ўсе asталіся вельмі здаволенымі.

— Вось удала!.. Піонэры—гэта штука ня дурная!..—Дзівіліся старыя.

Дай рады!.. Гэта-ж і мой унук вунь як упраўляецца. Куды жывей, як каля міскі,—паказваў дзед свайму суседу на сцэну, дзе белагаловы Віця адмахваў чудака ў сваёй ролі.

## V

А ў гэтым годзе піонэры ўзяліся наладзіць і антырэлігійную кампанію, «Чырвоную ўсяночную» справіць.

У клюбе, дзе школа, яны і спраўлялі.

— Ах, сукіны дзеці, дзе толькі мая папружка?..—ускіпеў Хведар, як убачыў, што піонэры супроць, значыцца, сьвят пашлі.

— Ціха, ціха, бацька!..—заспакоілі яго комсамольцы—ня крычы, вось сядзь і пасядзі, паслухай!

Люба, дорага паглядзець на гэтых дзяцей!..

— Ды што гаварыць?! Каб ня чырвонаармейцы, дык і дагэтуль спалі-б, а то ўсёроўна, як другі раз радзіліся на сьвет людзі,—гутараць паміж сабою сяляне. Але добра, што чырвонаармейцы хоць піонэраў нам заставілі і комсамолаў, а то бяз гэтых і тых нічога-б усёроўна ня было.

*М. Нікановіч.*

(Сябра „Маладняка“).

# ФРЫЦ.

*(Апавяданьне з жыцьця нямецкіх піонэраў).*

Кожны дзень, як толькі замітусіцца раніца, рвуць гудкі цемру. Рабочыя з канцоў гораду Бэрліну прасыпаюцца. Рыхтуюцца яны да сваёй звычайнай дзеннай працы.

Маленькі Фрыц ачнуўся сягоньня, як толькі пракаціўся над дамамі першы гудок. Ён падышоў да вакна і пачаў прыглядацца ў туманна-сінюю даль, адкуль выразаўся чорнаю плямаю аграмадзіна завод.

Фрыц запаліў сваю газовачку. Ужо ачнуўся і старэйшы брат Фрыца. Хутка брат сабраўся і пашоў на сталяліцейны завод. Фрыц астаўся яшчэ сядзець за густым жоўтым чаем.

Міжвольна і сягоньня, як і ўчора ўсплываў успамін у галаве Фрыца аб гэтым заводзе... Там, дзе працуе цяпер брат, працаваў раней бацька. І працаваў ня мала. Працаваў і над стальлю, і над плянамі рабочых стачак...

У 23 годзе бурныя дні перажывала Нямеччына... Загарнула гэтая бура і заводы, і рабочыя пасёлкі, і кварталы... І калі ўзброеныя рабочыя вышлі на вуліцу Бэрліна на змаганьне—у першым шэрагу быў бацька Фрыца.

Скасіла яго ўражая куля...

Але Фрыц добра помніць бацьку. Гаварыў ён маленькаму сыну, як выходзіў на барыкады:—Як вырасьцеш, Фрыц, помні: змагайся за нашу рабочую справу...

* * *

— Трам-там-там!—Забарабаніў нехта па шыбах вакна Фрыца. Фрыц вышаў.

— Вось што, брат,—зашаптаў яму на вуха хлапчук гадоў 13-ці, сябра дзіцячай ком. групы,—цяпер у нас унечарговы сход, там на палянцы, бяжэм!

Айда!—схапіў шапку Фрыц, і шмыганулі хлопцы на палянку.

Хлопцы мінулі завод. Прабеглі трошка яшчэ і скаціліся ў нізіну, дзе чвлавек 45 ужо чакалі іх.

— Ну, рабяты, усе—пачнем,—абвясьціў старэйшы ад іх хлапец-комсамолец.

— Вось у чым справа, сябры: сягоньня трэба нам раскінуць штук 80 проклямацый... Даручана вашаму атраду. Мне няма калі.

Комсамолец схаваўся ў цёмна-сінім дыме заводзкіх труб.

— Рабяты, хто бярэцца?

— Я! Я! Я!..

— Ідуць: Фрыць, Гэрман, Пэтэр...

Апусьцела палянка. Толькі вецер яшчэ і яшчэ пралятае над ёю, сьпяваючы нудную і незразумелую сваю песьню.

* * *

Бомбаю ўляцеў Пэтэр да брата Фрыца—павадыра атраду.

— Трэба сабраць атрад!—крыкнуў Пэтэр яшчэ на парозе,—арыштаваны Фрыц!

Я бягу склікаць.—І кувырнуўся ў дзьверы.

Хутка ўсе ў зборы. Захваляваліся дзеці. Хадуном пашла хата.

— Ідзём выручаць. Я заставіў Гэрмана, каб глядзеў куды павядуць Фрыца. Мы спаткаемся з ім,—прапанаваў Пэтэр.

— Ідзём, ідзём!—падхапілі ўсе.

Стройся!

— 1-ы, 2-гі, 3-ці... 48-ы—апошні голас.

— Шагам арш!

Ідзём мы ўсе малыя дзеці,
Ідзем мы дзеці беднякоў!..

зьліліся ўсіх думкі і галасы ў песьні.

* * *

Каля дому паліцыі хвалюецца цэлая грамада. Усе, хто праходзіў вуліцаю, супыняліся. Дзіва. 48 чырвоных гальштукаў асадзілі дом паліцыі з крыкамі:—Аддавайце нашага таварыша!.. Аддавайце!!!—Дзын, дзын, дзын!..—запелі пабітыя вокны пад сьвіст дзесяткаў камянёў.

Аддавайце нашага піонэра!!.. Бяз яго мы ня пойдзем!!..

Поліцыя ня ведае, што рабіць. Страляць?.. І ў момант рулі высадзілі свае галовы з вакон. А ў адказ ім загрымела песьня.

— Паўстань, пракляцьцем катаваны...

Фрыц быў выпушчаны.

Зноў вясёлай баявой піонэрскай зазьвінела ў ногу песьня.

* * *

Фрыц і цяпер клеіць чырвоныя проклямацыі. Дні барацьбы наперадзе, але Фрыц да іх гатоў?

Завет бацькі ў сэрца Фрыца стукае з кожнай хвалінай:

— Змагайся, Фрыц, за нашу рабочую справу!

І Фрыц рашуча змагаецца, бо ён ведае, што перамога будзе толькі ў руках працоўных.

Піонэр *М. Равіковіч.*

* * *

Я сягоньня—комуны дзіцё,
Я сягоньня—юнак-піонэр...
Гэты сьпеў—маладое жыцьцё—
Я складу піонэрскай вясьне.
Хай-жа песьня ўздымае прастор,
Разьліваецца хай у палёх...
Глянь, сьмяецца задуманы бор,
Апусьціўшы да долу гальлё.

Сьмела вышлі мы ўсе працаваць,
Бо да працы жыцьцё нас заве.
Піонэрская сільная раць,
Яна жданай комуны сьвет.
Сонца яснае, радасьці дзень,
Кучаравяць зялёны абшар.
Ў маім сэрцы чырвоны прамень,
Ў маім сэрцы навукі пажар.

Бо я сёньня комуны дзіцё,
Бо я сёньня—юнак-піонэр.
Гэты сьпеў—маладое жыцьцё,
Гэты сьпеў—піонэрскай вясьне!

*Анатолі Вір.*
(студыя „Маладняка“).



# Праца зьвяна ўлетку на вёсцы.

Да гэтага часу зьвеньні ў вёсцы слаба распаўсюджваліся. Дзеці больш працавалі гуртком—усе разам.

Цяпер-жа, калі часта зьбірацца разам немагчыма, з прычыны палявой працы ў сельскай гаспадарцы—трэба падумаць, як лепш організаваць працу ў зьвеньнях.

Раней за ўсё трэба пабудаваць зьвеньні так, каб у адно зьвяно ўваходзілі дзеці, якія працуюць адзін каля другога і могуць дагаварыцца. Калі такія зьвеньні будуць падабраны, неабходна на агульным зборы атраду даць ім заданьні на дзьве нядзелі альбо на месяц (гледзячы па таму, калі атрад зможа зноў, сабрацца).

Заданьні могуць быць наступныя: вывучыць і запамятаць добра законы і звычаі піонэраў, даведацца шляхам чытаньня літаратуры й гутарак з дарослымі, як жыў і вёў барацьбу Ленін, даведацца, як будуецца Савецкая ўлада, што такое сход, сельсавет, раёны зьезд Саветаў, РЫК і г. д.; сачыць за ўсходам хлебных расьлін дзеля таго, каб знаць калі, якая і як расьліна пасьпявае.

Гэтыя і падобныя ім заданьні павінны давацца піонэрам. Апрача гэтага, трэба, каб на кожным зборы зьвяна чыталіся допісы з **„Беларускага Піонэра“** і гуртам абгаварваліся. Чытаць часопісь павінен і кожны піонэр асабова, што не дае асаблівых труднасьцяй.

Зборы зьвеньняў не павінны, зразумела, ператварацца ў сухія „сходы“, а затым на зборах трэба праводзіць гульні, сьпяваць песьні, загадваць і адгадваць загадкі, а таксама будаваць колектыўна допісы ў **„Беларускі Піонэр“**.

З другімі зьвеньнямі кожнае зьвяно мае сувязь праз збор атраду, а таксама праз насьценную газэту, допісы ў якую трэба пасылаць і ў часе працы.

Вось што павінна рабіць зьвяно ў сваёй унутранай працы. Апрача гэтага, піонэры, як організаваныя дзяці, павінны ўцягваць і другіх дзяцей у гутаркі, гульні і песьні. Дзеля гэтага зборы зьвеньняў ніколі не павінны рабіцца зачыненымі, а наадварот, аб іх кожны піонэр павінен абвяшчаць усім сваім таварышом.

Сярод маленькіх дзяцей піонэры вядуць працу наступным чынам:

Кожны піонэр адзін раз на працягу месяца застаецца дома, калі ўсе ідуць на працу, зьбірае дзяцей, гуляе з імі, сьпявае й расказвае ім маленькія апавяданьні. Калі піонэры змогуць гэта зрабіць, то маленькія дзеці перастануць паліць розныя прадметы, псаваць хатнія рэчы і г. д. Аб гэтым раней трэба дагаварыцца з бацькамі, каб ніякіх непаразуменьняў ня было.

Такім чынам, улетку піонэрская праца не павінна аслабнуць—кожны піонэр, дзе-б ён не знаходзіўся, павінен помніць, што ён піонэр і што ён заўсёды павінен імкнуцца выканаць заветы **Ільліча.**

*П. Хэйфец.*




# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Выконваем заветы Ільліча.

*(М. Бярэзіна).*

З прыходам вясны нашы піонэры праводзяць свае сходы ў бліжэйшых вёсках з неорганізаванымі дзяцьмі. Вясковых дзяцей трудна было прывабіць да сябе. Але з цягам часу мы прывабілі да сябе шмат вясковых дзяцей. Так, у вёсцы Капланіцы мы маем атрад піонэраў у 25 чалавек. Па іншым вёскам пакуль-што толькі па некалькі чалавек.

Капланіцкі атрад піонэраў з кожным днём узмацняе сваю працу. Атрад разьбіўся на два зьвяны і, ня гледзячы на вялікую занятнасьць дзяцей, зьвеньні вядуць заняткі 2 разы ў тыдзень. Перад 1-м мая дзеці-піонэры давалі ўрачыстае абяцаньне перад сваімі бацькамі. Гэты момант яшчэ больш падняў аўторытэт дзяцей перад бацькамі. Дзеці, піонэры з другіх вёсак прыходзяць на сходы да нас у Бярэзіна па нядзелям.

Намечаны яшчэ два пункты дзеля організацыі піонэрскіх атрадаў. Гэта ў Бялічанах і ў Неганічах. У бліжэйшы час атрады будуць організаваны.

Піонэр *С. Ошыкін.*

## Ліст да дзядзькі Ў. М. Ігнатоўскага.

*(в. Таўкачэвічы, Шацкі раен).*

**Паважаны дзядзька Ігнатоўскі!**

Наш атрад юных піонэраў носіць Ваша ідэёвае імя. Мы пасылаем Вам сваё гарачае прывітаньне і просім Вас, каб Вы прыслалі нам сваю біографію. Нам вельмі карысным будзе ведаць яе.

Ад імя ўсяго атраду піонэраў

*І. Папкоўскі.*

## Хоць памалу, але наперад.

*(в. Гасьцілавічы, Лагойскі раен).*

Узімку атрад наш налічваў у сваім складзе 40 чал. піонэраў. З прыходам вясны лік гэты зьменшыўся да 21 чал. Шмат каму з дзяцей прышлося ісьці пасьвіць каровы ў суседнія вёскі, былі й другія важныя прычыны. Мы спадзяёмся, што лік сяброў нашага атраду хутка павялічыцца, бо на нашы зборы прыходзіць шмат дзяцей. Бяда ў тым, што мы амаль-што ня маем літаратуры і свайго памяшканьня.

Ня гледзячы на ўсё гэта, мы ўсё-ж такі працуем. Узімку займаліся ў школе. Цяпер мы праводзім свае заняткі ўвечары, каля агню. Займаемся два-тры разы ў нядзелю. Хоць памалу, але йдзём наперад.

Піонэр *В. З.*

## Шчыльней за працу!

20 чэрвеня спаўняецца 3-х годзьдзе піонэрскіх організацый. З пачатку існаваньня атрады піонэраў працавалі вельмі слаба. Гэта можна растлумачыць адсутнасьцю мэтодаў у працы ў той час.

Наш Крычаўскі атрад налічваў у сваіх шэрагах спачатку толькі 12 піонэраў, а зараз мы маем ужо 180. 2 атрады беларускіх і адзін жыдоўскі.

Пры дапамозе нашых атрадаў і пад іх кіраўніцтвам організаваны і працуюць тры піонэрскіх организацыі па ваколічных вёсках. Гэта гаворыць аб росьце і ўзмацненьні працы нашых піонэрскіх атрадаў.

Нашым заданьнем на чацьверты год існаваньня піонэр. організацый павінна стаць—пашырэньне і ўзмацненьне піонэрскага руху.

м. Крычаў. *Крэмярман.*

## Праца нашага атраду.

(*Шуміліна, Сіроцінскага раёну*).

У лістападзе м-цы 1924 г. організаваўся ў нас атрад юных піонэраў. Да гэтага часу дзеці зусім ня цікавіліся грамадзянскай працай: бегалі па вуліцах, ганялі сабак, біліся паміж сабою. На агульным сходзе дзяцей мястэчка і бліжэйшых вёсак была зроблена пастанова об організацыі піонэрскага атраду.

У атрад запісалася шмат дзяцей. Атрад некаторы час ня меў кіраўніка. З цягам часу кіраўніцтва над атрадам узяла на сябе комсамолка-настаўніца.

Праца пайшла наперад. Мы сьсябраваліся з вясковым атрадам, зрабілі некалькі выездаў. Было пастаўлена на вёсцы некалькі спэктакляў. За атрыманыя ад спэктакляў грошы мы купілі піонэрскай літаратуры, абсталявалі свой піонэрскі клюб.

Раней бацькі глядзелі на нас коса, але цяпер здаволены нашай працай.

Цяпер мы рыхтуемся да справаздачнага вечару, у які мы пакажам бацьком нашы дасягненьні.

На летні час мы маем вялікі плян працы па розным галінам. Спадзяёмся, што мы яго выканаем. Піонэр *Новік*.

# Піонэрскі рух расьце.

(*Мсьціслаўская акруга*).

30 траўня Мсьціслаўская організацыя „ЮП“ сьвяткавала гадавіну свайго існаваньня. Першым зародкам нашай організацыі, была організацыя дзяцей у дзіцячых калёніях улетку 1923 г. Але праца тут вялася вельмі дрэнна за адсутнасьцю літаратуры й належнага кіраўніцтва. Толькі ўвесну 1924 г. організацыя ўзмацнілася, і 30 траўня таго-ж году дала ўрачыстае абяцаньне. Гэта быў першы сталы атрад „Ю П“. З цягам часу організуюцца атрады ў горадзе й на вёсках. Першым вясковым атрадам зьяўляецца Колтаўскі.

Цяпер мы маем тры гарадзкія і тры вясковыя атрады.

Наша задача: да будучай гадавіны мець ня 6 атрадаў, а 12-ць, і мы гэтага дасягнём, бо піонэрскі рух расьце.

*М. П. Махнач.*



Куток «Юнага Піонэра» на с.-г. саматужна-прамысловай выстаўцы ў саўхозе «Чырвоны Араты», Чэрв. раёну.

# ПЕРАХОДЗІМ НА ЛЕТНЮЮ ПРАЦУ.

## Займаемся на сьвежым паветры.

*(І-шы Клімавіцкі атрад).*

Наш атрад ужо пераходзіць на летнюю працу. Цяпер мы вядзём свае заняткі на свежым паветры.

Быў назначаны „суботнік“, піонэры пашлі ў лес, прынясьлі жэрдак і абгарадзілі сад.

Ужо зложаны плян працы на лета, па якому мы і будзем працаваць.

Піонэр *Н. Бярозкін.*

## Наша начоўка.

У адзін з лепшых дзён наша Бабруйская організацыя „Ю П“ сумесна з піонэрскімі організацыямі акругі сабралася наладзіць начоўку.

Піонэры сабраліся каля клюбу і рушылі ў дарогу. Усе павадары былі як бы вайсковымі камандзірамі, а піонэры—чырвонаармейцамі. Уся організацыя была падзелена на чырвоных і белых. У дарозе нам было вельмі весела.

На азначаным месцы мы застанавіліся, правялі гутаркі пры запаленых кастрох і пасьля пачалі йграць у чырвоных і белых. Гульня была вясёлай і зацікавіла ўсіх.

Пачынала сьвітаць, як мы рушылі дамоў.

(г. Бабруйск). *Н. Ляховіцкі.*

## Ня рыхтуюцца да летняй працы.

*(г. Чэрыкаў).*

Пачынаецца летняя праца піонэрскіх атрадаў. Хутка атрады пойдуць у лагер. У сваёй летняй працы піонэры гарадзкіх атрадаў павінны мець лепшую сувязь з вясковымі атрадамі. Але наш атрад да гэтае працы яшчэ ня рыхтуецца.

А ўжо час распачаць гэтую працу!

Пікор *З. Півавдраў.*

## Перайшлі ў сад.

З прыходам вясны наша праца зусім зьмянілася. Мы з цеснага пакою перанесьлі працу на вольнае чыстае паветра. З вялікімі труднасьцямі дасталі сабе невялікі садок, плошчаю ў 495 кв. сажаняў. У садку мы збудуем сабе пляцоўку для заняткў, невялікі паказальны агарод і „беседку“, дзе будзе зьмяшчацца літаратурна-піонэрскі куток. Спадзяёмся выпусьціць сваю піонэрскую часопісь.

Наагул наша праца з прыходам вясны прыняла жывы характар па ўсім галінам.

(г. Бабруйск). Пікор 68 атраду *М. Гэльфэр.*

## Наша летняя праца.

З прыходам вясны і лета абставіны нашай працы мяняюцца. Душнае памяшканьне ўжо ня вабіць нас, нам патрэбен простор, вольнае чыстае паветра, якое асьвяжае і ўзмацняе наш організм. Мы зараз атрымліваем сады, агароды і пляцоўкі.

Цяпер насьценная газэта, якой-бы добрай яна ні была, ня можа вабіць да сябе чытача ў душным памяшканьні. Цяпер патрэбна газэта, адпавядаючая летняй працы. Гэта „жывая“ газэта, якая па тэхніцы куды легчэй насьценнай газэты. Галоўная асаблівасьць гэтай газэты тое, што кожны дапішчык чытае свой артыкул, што прываблівае піонэраў стаць пікорамі. „Жывая“ газэта патрабуе жывой формы, г. значыць гумару. 50 проц. усяго матар'ялу „жывой“ газэты павінна быць гумарыстычным. „Жывая“ газэта не патрабуе ні чарніл, ні мастака, што часта не давала магчымасьці выпускаць газэту к часу, а таму яе можна выпускаць штотыднёва, на зборах атраду, вечарох бацькоў і г. д. „Жывая“ газэта самая падхадзячая пазьместу, жыцьцёвасьці да нашых сучасных заняткаў і працы.

Піонэр *М. Гэльфэр.*

(г. Бабруйск).



# ПРАЦА НАШЫХ КЛЮБАЎ, ШЭФАЎ і КООПЭРАТЫВАЎ.

## Наш цэнтральны клюб.

*(Барысаў).*

Раней кіраўніцтва цэнтральным піонэрскім клюбам належала піонэрам-комсамольцам. Але яны былі заняты комсамольскай працай. З гэтае прычыны клюб працаваў дрэнна: гурткі не вялі працы, піонэры ў клюбе вялі сябе зусім недысцыплінавана.

Цяпер кіраўнікамі ў клюбе сталі самі піонэры, і праца пайшла хутка наперад. Гурткі вядуць працу акуратна, адчынены Ленінскі куток і чытальня. Куды менш стала шуму і штурханіны.

Піонэр *М. Барыс.*

## Больш жывой сувязі.

*(Любаніцкі атрад, Бабруйск. акругі).*

Каб папытаўся хто, колькі шэфаў маецца ў нашым атрадзе, дык можна адказаць, што шэфаў у нас ёсьць вельмі багата. А каб захацеў яшчэ ён папытаць, як і чым яны нам дапамагаюць—можна адказаць, што пакуль што сувязь нашых шэфаў з атрадам слабая.

А шэфы ў нас ёсьць у кожным зьвяне. Шэфствуе сэкцыя харчавікоў, якая дае калі небудзь часопісі, шэфствуе сэкцыя будаўнікоў, якая дае адну „Чырвоную Зьмену". Таксама шэфствуе коопэратыў і маслабойная арцель. Адным словам, шэфаў колькі хочаш. Толькі ім трэба падцягнуцца. Трэба больш жывой сувязі з атрадам.

*Арчык Шэйнман.*

## Наш клюб.

*(Шумілiна, Сіроц. раёну).*

Пры Шумілінскай школе сіламі піонэраў і настаўнікаў абсталёван школьна-піонэрскі клюб. Гэта невялічкі, але добры пакойчык. На сьценах вісяць портрэты правадыроў, лёзунгі і г. д. Пры клюбе маецца маленькая бібліотэчка, ёсьць куткі: дзядулі Леніна, „Бязбожніка", „Сялянкі", „Чырвонаармейца" і інш.

Адмоўныя бакі нашага клюбу: малое памяшканьне і адсутнасьць сталоў, лавак і г. д.

Шэф раёну, настаўніцтва, зьвярнеце на нас большую ўвагу. Мы, піонэры, чакаем.

Піонэр *Новік.*

## Будуем свой коопэратыў.

На другой гадавіне нашай Магілеўскай організацыі „ЮП" мы адчыняем свой дзіцячы коопэратыў.

Раней у коопэратыў ніхто не хацеў запісвацца: быў вельмі вялікі сяброўскі ўзнос, але цяпер ён паменшыўся—з 50 кап. да 15 к. Шмат піонэраў ужо запісалася, і коопэратыў хутка адчыніцца.

Піонэр *Эмдзін.*

## Коопэратыў мацнее.

*(М. Шацк).*

Наш дзіцячы коопэратыў расьце. Лік сяброў з кожным часам павялічваецца. Сябрамі ўваходзяць ня толькі піонэры, але й вучні. Усе патрэбныя рэчы вучні і піонэры купляюць у сваім коопэратыве і ня ідуць да прыватных гандляроў. Усе рэчы куды таней, чымся ў прыватнага гандляра. Так, у гандляра, напрыклад, сшытак каштуе 4 кап., а ў нас—2 кап.

Пікор *Мацкевіч.*

## Дрэнна бяз шэфа.

Наш атрад організаваўся ў жніўні месяцы 1924 году. У тую пару над намі ўзяў шэфства Хоцімскі другі атрад. Гэты атрад тады прыходзіў часта к нам у вёску, дзе праводзілі вечары злучкі, давалі нам настаўленьне ў нашай працы.

Такая сувязь з імі ў нас была нядоўгай, хутка яны перасталі к нам хадзіць і ня так ужо цікавіліся нашым атрадам. Нам-жа ў той час, калі яны перасталі хадзіць у наш атрад, было вельмі кепска. Мы тады былі ня дужа знаёмы з піонэрскай працай.

Цяпер мы працуем бяз шэфа і вучымся працаваць на сваіх памылках.

Але вельмі дрэнна бяз шэфа.

Піонэр *Р. Ефрэменка.*

## Шэф заснуў.

*(Ясень, Зах. чыгунка).*

У прошлым годзе ўзяў шэфства над нашым атрадам коопэратыў. Спачатку ён дапамагаў нашаму атраду чым кольвек. А вось ужо прайшло некалькі месяцаў і шэф, мабыць, забыўся пра нас.

Піонэр *Данскі.*

# ЯК ПРАЦУЮЦЬ НАШЫ ПІКОРЫ.

## Праца пікор-гуртка.

*(Атр. ЮП, пры ст. Крычаў, Зах. чыг.).*

Пікор-гурок організаваўся ў нас даўно. Але працы ён ніякай не вядзе. Усіх сяброў гуртка налічваецца каля 15-ёх, а пішуць у насьценную газэту з іх толькі 5-7 чалавек. Кіраўніком гуртка зьяўляецца комсамолец, але ён ня можа таксама падняць на пэўную вышыню працу гуртка.

„Беларускі Піонэр“, памажы хіба ты нам падняцца на ногі ў нашай працы.

Пікор *Цярпіораў.*

## Корпраца йдзе!

У нас, у сёмай школе, з пачатку вучэбнага году корпраца спала. Кор-гуртка ня было. Праца пастаўлена была вельмі дрэнна, газэты выпускаліся рэдка, і то пісала толькі адно кор-бюро.

Праз некаторы час мы выбралі новае бюро і павялі працу на інакшых асновах.

Насьценныя газэты пачалі асьвятляць кіпучае жыцьцё ўсёй школы. Газэта зацікавіла вучняў, вучні сталі пісаць у яе. За 4-х месячны пэрыод нашай працы выпушчана 12 нумароў насьценнай газэты. Праца йдзе хутка наперад, аб'ядваючы вакол сябе ўсё больш і больш будаўнікоў новай школы.

(г. Бабруйск). Пікор *М. Гэльфэр.*

## Піонэры, чытайце друкаванае слова!

Калі глянуць на тое, як чытаецца піонэрамі друкаванае слова, то можна ўбачыць, што адны з піонэраў чытаюць вельмі мала, другія чытаньнем зусім ня цікавяцца.

Гэтак, хлопцы, рабіць дрэнна. Я-б раіў даручыць чытаньне газэты аднаму піонэру з зьвяна. Ён прачытае кожны раз газэту і растлумачыць яе, бо шмат ёсьць піонэраў, якім цяжка зразумець газэту.

(м. Крычаў) Піонэр *К. Пятроў.*

## Ці патрэбны ў зьвяне політ-сводкі

У нас, у насьценнай газэце, было закранута пытаньне аб тым, ці патрэбны ў зьвеньнях політ сводкі. Адны казалі, што політсводкі ў звеньнях патрэбны, другія—адмаўлялі. Мы думаем, што політ-сводкі карысны толькі ў першым і другім зьвеньнях, дзе дзеці разумеюць бягучыя падзеі, умеюць разьбірацца ў газэтах. Бо ў другіх зьвеньнях дзеці ня толькі не разумеюць бягучых падзей, але і не разумеюць таго, што пішацца ў газэце. Тут трэба раней за ўсё навучыцца добра разьбірацца дзецям у газэтах.

Піонэры! які ваш погляд на гэтае пытаньне? Піонэр *Эмдзін.*



За працаю на піонэрскім агародзе.

# АБ УСІМ ПАТРОХУ.

## Наша сувязь з КСМ.

*(Н.-Барысаў, 4 атрад).*

Сувязь чырвоных гальштукаў з ячэйкай КСМ узмацняецца. На сходах ячэйкі нашы піонэры прысутнічаюць. Два піонэры нашага атраду перададзены ў комсамол. У нашай насьценнай газэце ёсьць куток ячэйкі. Павадыр нашага атраду—сэкратар ячэйкі.

Трэба зазначыць, што сувязь гэтая наладжвалася вельмі цяжка, бо раней комсамольцы нашы глядзелі на піонэраў вельмі дрэнна.

Піонэр *Г. Марголін.*

## Наша зьмена.

*(Н.-Барысаў, 4 атрад).*

Пры нашым атрадзе піонэраў маецца група „Чырвоных Зорак“ у ліку 25-ёх чалавек. Доўгі час мы амаль-што не працавалі сярод іх. Потым мы вылучылі з атраду піонэраў павадыроў „Чырвоных Зорак“. Група была разьбіта на звеньні і праца хутка пашла наперад.

„Чырвоныя Зоркі“ выпусьцілі чатыры нумары насьценнай газэты „Кліч чырвоных зорак“. 5 чалавек „Чырвоных зорак“ прыходзяць на заняткі піонэрскага зьвяна.

Піонэр *Марголін.*

## Дзе насьценгазэта?

*(Койданава).*

Койданаўская беларуская сямёхгодка ўвосень выпусьціла першы нумар насьценнай газэты. Вучні вельмі прыхільна аднесьліся да яе і пачалі пісаць у другі нумар. Але другога нумару і да канца вучэбнага году мы ня ўбачылі.

Справа ў тым, што рэдакцыя насьценнай газэты не змагла трымаць язык за зубамі, а гэтым самым адбіла ахвоту пісаць у дапішчыкаў.

*Вучань.*

## На барацьбу з дурманам.

У нашым атрадзе ёсьць піонэр Процэнка. Ён запісаўся ў атрад без дазволу бацькоў. Матка яго вельмі набожная і вось, як яна даведалася, што сын яе ў атрадзе, пачала біць яго і гнаць у царкву. Хлапец доўга цярпеў, а калі стала немагчыма, прышоў на пасяджэньне савету атраду і расказаў усё:

— Альбо выпішуся з атраду, альбо дамой не пайду—казаў ён.

Доўга абгаварвалася гэтая заява на пасяджэньні савету: адны казалі, што трэба ўзяць яго на нядзелю, другія казалі, што лепш аддаць у дзіцячы дом.

У выніку спрэчак было дазволена піонэру хадзіць у царкву, а павадыру прапанавалі схадзіць да бацькоў і сказаць, каб яны пускалі свайго сына ў клюб. Зараз Процэнка кажа, што яго бацькі ў царкву ня гоняць, і ён стаў акуратна хадзіць на заняткі.

Вось наш посьпех у барацьбе з рэлігійным дурманам.

(г. Быхаў). *І. Плаўнаў.*

## Калі прачнешся?

*(Чэрвень).*

За год сваёй працы наш пікоргуртотк толькі два разы наладжваў заняткі. Шмат на іх гаварылі, а толку ніякага. Ужо прайшла вясна, а старшыня й ня думае брацца за працу.

Можа ўжо выспаўся, старшыня?

Піонэркі: *К. Л. С.*

## Прыкладны піонэр.

У 18 атрадзе ёсьць піонэр Міхалевіч. Калі трэба было ўнесьці некалькі кап. на Ленінскі куток, ён сказаў: „наша кляса ня будзе даваць грошай, я і сам ня дам“.

Вось сьвята, вучні сабраліся на сходзе і сьпяваюць інтэрнацыянаць, а Міхалевіч знайшоў лішнім даць салют.

*Чырвоны.*

## Падкачалі.

*(г. Мсьціслаў, Калінін. акругі).*

У мінулым месяцы наш атрад хадзіў на вёску для пастаноўкі спэктаклю.

Усю дарогу мы йшлі з песьнямі й барабанам. Павадырка атраду папершае зрабіла даклад сялянам. Даклад, праўда, быў нездавальняючым. Шмат слоў было незразумелых для сялян, як, напрыклад: «паралельна, нацыяналізм» і шмат іншых. Пасьля дакладу павадыркі з боку сялян ня было ніводнага запытаньня.

Добры даклад зрабіў вясковы настаўнік. Сілаю атраду была пастаўлена п‘еска „Супроць чырвонага гальштука“. Спачатку вельмі шмат народу было на спэктаклі, потым разышліся: вельмі дрэнна трымаліся на сцэне піонэры. Шум і штурханіна на сцэне не спадабаліся сялянам і яны, нават, не дачакаліся да канца спэктаклю.

Піонэр *В. Барысенка.*

## Няма сваёй часопісі.

*(Мазыр, 24 атрад).*

Праца ў атрадзе ідзе добра. Нядаўна адбыліся перавыбары кіраўнікоў зьвеньняў і камісій. Адно дрэнна, што атрад ня выпісаў дагэтуль даволі сваёй часопісі **„Беларускі Піонэр“**.

Піонэры кажуць, што няма грошы, калі кожнаму падпісацца. Але-ж на што аднаму, калі можна колектыўна ўсім атрадам выпісаць 8-10 нумароў і ўсім будзе хапаць.

Піонэр *Н. Файнберг.*

## Няма сувязі.

*(г. Клімавічы).*

У нашым горадзе маецца чатыры атрады юных піонэраў. Паміж атрадамі няма ніякай сувязі. Піонэры ня ведаюць адзін другога. Калі склікалі агульны сход усіх атрадаў, дык з двухсот піонэраў прышло ня болей, як сто. А гэта якраз і тармозіць працу. На гэта нашым атрадам трэба зьвярнуць увагу, бо ўсе піонэры павінны быць аб‘яднаны, як адна сям‘я.

Піонэр 1-га атраду *Н. Бярозкін.*

# Начоўка ў піонэрскім атрадзе.

Вельмі часта піонэры выказваюць свае жаданьні павадыром, каб пайці на начоўку разам усім атрадам.

Чым-жа так цікава начоўка?

Галоўным чынам, зразумела, таму, што дзяцей цікавяць там гульні, вогнішча і г. д.

Ці правільна праводзіліся начоўкі да гэтага часу?

Не. Ня зусім правільна. У большасьці атрады ішлі на начоўку без усялякай мэты, ня ведаючы за чым ідуць і чаго. На месцы начоўкі раскладваліся агні, часткова калі небудзь праводзіліся гутаркі, а больш усяго дзеці проста тырчэлі ў лесе ці на палянцы дзе-небудзь і ня спалі.

Такія начоўкі ня зусім та карысны. Яны не даюць дзецям магчымасьці аддыхаць, а толькі стамляюць іх.

Як-жа трэба праводзіць начоўку?

Раней усяго трэба абраць добрае месца, куды атрад накіроўваеццаісьці, за тым мець мэту—за чымісьці. Месца лепш усяго абраць недалёка ад гораду, блізка вёскі. Месца гэтае павінна быць забясьпечана вадою, лесам, і недалёка ад стаянкі павінны быць памяшканьні.

**Чагоісьці.** За некалькі збораў атраду да начоўкі піонэры павінны прадумаць плян, што правесьці на начоўцы. Калі атрад думае на гэтай начоўцы правесьці якую небудзь масавую гульню—лепш усяго на папярэднім сходзе правесьці на гэту тэму гутарку і разьмяркаваць ролі.



Прышоўшы на месца, піонэры павінны старацца прынесьці карысьць дзецям тэй вёскі, дзе яны застанавіліся. Яны павінны організаваць з тымі дзецьмі гульню ці гутарку, калі на гэта маецца магчымасьць.

У сваім-жа атрадзе праводзяцца гульні, песьні, гутаркі. Усё гэта робіцца толькі да 12 гадзін, пасьля чаго ўсе павінны класьціся спаць у палатках, ці ў свабодным памяшканьні.

Начоўка не павінна нэрваваць і паслабляць сілы дзяцей, а наадварот, яднаючы цікавае (сама начоўка) з карысным (сон на сьвежым паветры). Начоўка павінна дапамагчы аздараўленьню дзяцей.

Зразумела, да кожнай начоўкі трэба рыхтавацца, каб там ня было ніякіх недахопаў у чым небудзь. Яду трэба браць з сабою. Апрача яды, трэба ўзяць з сабою некаторыя прылады для гульняў; сякеру і рыдлёўку для пабудаваньня стаянкі і г. д.

*Паулюк.*

# ЯК ПРАВОДЗІЦЬ ДЗЕНЬ ПІОНЭР У ЛАГЕРАХ.

Раніцою, як толькі ўстаюць, усім піонэрам раіцца рабіць 10-ёх хвілінную гімнастыку. Вельмі пажадана гімнастыку праводзіць на беразе рэчкі, калі тут яна ёсьць блізка. Пасьля гімнастыкі на 1--2 хвілінкі можна ўскочыць у ваду пакупацца (купацца нямо́жна толькі хворым). Пасьля купаньня вельмі пажадана ўстроіць 2-хвілінны бег.

Розныя выбары і зборы на працу цягнуцца ня больш 45—50 м. Адбываецца сьнеданьне, якое павінна быць досыць сытым, і ўсе пачынаюць сваю чарговую працу.

У лагеры застаецца толькі вартаўнічы, якога справа глядзець толькі за парадкам. Вартаўніцтва адбываецца па чарзе.

### Як разьмяркоўваецца работа.

Уся праца піонэраў групуецца вакол зьвеньняў. Разьмяркоўваецца яна сярод дзяцей так, каб кожны быў зацікаўлены сваёй працай; лепш усяго няхай самі выбіраюць сабе працу. Пры гэтым трэба мяняць працу па жаданьню піонэраў, каб гэта адна праца не надаядала. Заняткі, якія-б яны ні былі—па сельскай гаспадарцы, ці грамадзянскія—не павінны весьціся больш, як 1—2 гадзіны. Пры гэтым для старэйшага ўзросту—1 з пал.—2 гадзіны, а для меншага (11-13 год) 1--1 з пал. г.

У часе працы на полі дзецям пажадана і патрэбна рабіць частыя перарывы ў працы. Так прыблізна пасьля кожных 15—20 хвілін працы—3—5 хвілін для перарыву.

На сонцы трэба надзяваць на галаў шапку. Пасьля работы, якая патрабуе неправільнага становішча нашага цела, напр. полка, трэба рабіць адваротныя дзеяньні—разгібаць сьпіну ў даным выпадку.

### Пасьля ранешняй працы.

Як толькі скончыцца праца ў вёсцы, усе ідуць да свайго лагеру. Пажадана-б у гэты час прымаць дзецям сонечныя ванны і купацца, калі рака ёсьць блізка. Толькі купацца часта нямо́жна. Больш 2-х разоў не пажадана; дрэнна адбіваецца на організьме дзяцей. У вадзе заставацца трэба ня больш 1 хвіліны.

Карыстаючыся паветраю, купаньнем, сонцам, трэба памятаць, што толькі правільнае ўжываньне іх прыносіць карысьць для організму. Неправільнае карыстаньне прыносіць толькі шкоду.

### Правілы карыстаньня вадою.

Купацца трэба ня больш 2-х раз у дзень, а хваравітым дзецям—1 раз Купацца лепш усяго рана нашча, пасьля зарадавай гімнастыкі і ўвечары а 6—7 гадзіне.

Увечары можна купацца значна даўжэй, чым рана. Рана нямо́жна быць у вадзе больш 1 хвіліны, увечары—10, калі добрая пагода, а калі дрэнная—менш.

Прывыкаць к купаньню трэба з цёплай вады. Ніжэй 13° вада лічыцца халоднай для купаньня, і купацца ў такой вадзе рыскоўна.

У дажджлівыя дні перапынкаў у купаньні рабіць нельга. Трэба толькі старацца менш быць у вадзе.

Купацца ня можна раней 1—2 з пал. гад. пасьля яды, пры дрэнным адчуваньні сябе, пры стоме, пры хваробе як малярыя, галавы, малакроўе, бяссоньніца і інш., асабліва пры хваробе кішак. Замяняць купаньне для больш слабейшых дзяцей можна абціраньнем цела ня зусім халаднаватаю вадою. Калі рака далёка, можна купаньне замяніць абліваньнем. Абліваньне лепш усяго рабіць праз сетчатае вядро вадою ў 16°.

Адзін раз у тыдзень піонэры могуць прапусьціць купаньне і мыцца гарачаю вадою.

### Як карыстацца паветраю і сонцам.

Амаль увесь час трэба праводзіць на сьвежай паветры. Трэба прывучыць кожнаму сваё цела да сонечных праменьняў. Калі сонечныя праменьні шкодны (для некаторых забольвае галава, дрэннае самаадчуваньне і інш.), трэба ў далейшым старацца не знаходзіцца пад дзеяньнем прамых праменьняў.

### Сонечныя ванны і адпачынак.

Сонечныя ванны прымаюцца ўдзень ад 11--11½ гад. Усе дзеці кладуцца на сонцы голымі, пакрываючы толькі чым небудзь белым галаву. Прывыкаць да ваннаў трэба паступова на працягу цэлай нядзелі. Першы дзень досыць 5 хв., другі—10 і г. д. да 30 хв. к канцу тыдню.

Ванны лепш усяго праводзіць на беразе ракі, каб можна было пасьля 3—5 хв. адпачынку шабалдахнуць у рэчку на 1—2 хвіліны. Пасьля купаньня чыста выцірацца. Калі няма рэчкі, робіцца абліваньне.

Калі ў часе ваннаў забаліць галава, трэба лажыцца так, каб галава была ў цяньку.

Пры розных галаўных болях трэба пераставаць рабіць ванны і зьвяртацца да доктара. У хмурныя дні таксама ня трэба пакідаць рабіць ванны, бо вялікі ўплыў на організм мае і паветра.

Калі дзеці, прыходзячы з работы, не праводзяць сонечных ван, яны павінны ўмыцца, атрымаць гарачае сьнеданьне або абед. Пасьля абеду павінен быць абсолютны спакой для адпачынку на працягу гадзіны. Пасьля сьнеданьня таксама займацца толькі лёгкай работаю на працягу гадзіны.

Гэта патрэбна рабіць таму, што пасьля яды організму патрэбна шмат затрачваць энэргіі на пераварку стравы і ўсваеньне яе.

### Вольны час.

Пасьля адпачынку павінна быць адна гадзіна вольнай ад усякай працы агульнага характару. Гэты час кожны праводзіць, як ён захоча.

Гэты час лепш усяго скарыстаць для вынаходчай працы ў лесе. Пасьля гэтае працы дзеці атрымоўваюць чай, закуску.

А палове 8-ай дзеці вячэраюць. Яда да вячэры павінна быць лёгкая, лепш усяго малочная. Павячэраўшы, дзеці з 8 да 9 рыхтуюцца да сну, заводзяць гутаркі для вогнішча, намячаюць плян працы назаўтра. Перад сном абавязкова трэба мыць ногі.

Уначы трэба старацца захоўваць поўны спакой у палатцы. Усялякія страхі, выкрыкі і г. д. дрэнна адбіваюцца на нэрвовай сыстэме дзяцей і могуць палажыць сьлед свой на ўсё жыцьцё. Нядобра практыкаваць і начныя варты дзяцей і ўводзіць іх трэба з асьцярожнасьцю.

# ДОМ ПІОНЭРАЎ.

Ёсьць у Менску Падгорны завулак. Лепш трэба-б было называць яго дзіцячым завулкам. У дзень завулак зьвініць ад дзіцячага сьмеху, поўны дзіцячага свавольства. На горцы ў завулку высіцца трохпавярховы будынак. Завецца ён ,,Піонэр-домам". Гісторыя гэтага дому вельмі цікавая. Уперад існаваў жыдоўскі дзіцячы гарадок. Трыста чалавек дзяцей цягнулі дзень у дзень лямку. Тошную. Аднавобразную. Калупалі навуку ў гурткох, вырашалі „важнеюшчыя" пытаньні самаабслугоўваньня.

Надакучыла дзецям гэта жыцьцё. І вось у адзін прыгожы дзень зьявіліся яны з сваімі выхавацелямі:

— Організуйце ў нас піонэрскі атрад!...

У адным, другім колектыве гэтага дзіцячага гарадку па пастанове Окрбюро ,,ЮП" утвараецца піонэрскі атрад.

Жыцьцё так і закіпела. Атрад піонэраў хутка расьце і ўжо на першае верасьня прошлага году ў дзіцячым гарадку пануючая піонэрская большасьць.

Пасьля гэтага ў часткі працаўнікоў паўстаў плян ператварэньня дзіцячага гарадка на піонэрскіх пачатках. Пры вельмі дрэнных умовах: як адсутнасьць вопраткі, абуцьця, бялізны, харчоў і г. д., ператвараўся ,,Дзіцячы гарадок" у ,,Піонэр-дом". Зьмянялася пабудова самой організацыі, самой працы на інакшы лад. Заместа розных комітэтаў з шматлікавай колькасьцю сэкцый, падсэкцый, заместа гурткоў усю працу, жыцьцё, быт піонэра прасягла зьвеньневая сыстэма. Напрэкі жабрацтву, голаду, хваробам была разгорнута вялікая грамадзянскі-карысная праца. Дзяцей піонэр-дому вы знайдзеце ў чырвоных казармах, майструючых куткі для чырвонаармейскай братвы; іх можна ўбачыць за працай над насьценнай газэтай для падшэфнага вясковага атраду.

На адным з бальконаў дому вы заўсёды знойдзеце групу дзяцей, якія паглыбіліся ў чытаньне статуту РЛКСМ. Гэта нашы будучыя комсамольцы, якіх мы передаём у комсамол к гадавіне піонэр-організацыі.

Калі вы мільгом заглянеце на двор піонэрдому, вы ў бачыце дзяцей, якія палівающь градкі агароду, занятых кармленьнем парасят.

Жыцьцё б'е крыніцаю. Праца пашыраецца, расьце. Дзеці добра адбілі, наступ суровых умоў, справіліся з гаспадарчай разрухай; дзеці імкнуцца ў комсамол, стараюцца прынесьці карысьць рабочым і сялянам. Зразумела, што яшчэ многа недаробленa. Но ёсьць у нас упэўненасьць,—што мы мэты дасягнём, і падрыхтуем моцную зьмену комсамолу.

*М. Т.*

Піонэры! „Беларускі Піонэр" яшчэ раз напамінае вам аб колектыўнай і асабовай падпісцы на сваю часопісь.



Піонэры «Дома Комуны» на сваім агародзе.

# МАЕ ЎСПАМІНЫ АБ „ПІОНЭР-ДОМЕ“.

Памятую—гэта было зусім нядаўна. Напалову адзетыя, дрэнна накормленыя, мячыкам каціліся мы з агульнага памяшканьня ў школу, з школы ў агульнае памяшканьне, сталоўку і гэтак без канца. І яшчэ ў памяці захаваліся дні, калі мы адчувалі моцны крызіс у бялізьне, і мы не пераменьвалі бялізны па некалькі нядзель. Не хватала й верхняе вопраткі.

А вось і ізалятар, поўна набіты карасьлівымі... Дрэнны дагляд, недахват харчоў, дрэнны апал пакояў—усё гэта адчувалася намі на працягу зімы. У зімовыя халодныя ночы стаіш на караўуле каля дроў, рукі зябнуць, сівер прабірае па целу і здаецца, што вось, вось кінеш караўуліць і ўцячэш... Але піонэр церпялівы і моўчкі ходзіць па мёрзлай зямлі.

Такім чынам, холад, голад, жабрацтва былі нашымі вернымі спадарожнікамі. Але, ня глядзячы ні навошта, дзякуючы ўпартай працы піонэраў і павадыроў, комуна мае вялікія дасягненьні. У самыя дрэнныя часы яна йшла наперад і, бязумоўна, будзе ісьці далей і пашырыць пачатую працу.

Піонэрка *Беленькая Іда.*



Піонэры «Дома Комуны» кормяць сьвіней.

Выпісвайце, чытайце і пашырайце сваю часопісь; будзьце усе дапішчыкамі.



# БУДЗЬ ЗДАРОЎ!

*(Працяг).*

У папярэднім нумары я пазнаёміў цябе з асабовай (лічнай) гігіенай, з правіламі, якія ты павінен помніць і выконваць. Апрача ўсяго таго, што я ўжо сказаў аб гэтым, патрэбна помніць яшчэ накаторыя правілы аб захаваньні ў чыстаце свайго цела.

## Зубы

ў чалавека граюць ролю машыны, якая дапамагае жывату яго пераварываць страву, ужытую чалавекам. Толькі добра разжованая страва зможа даць табе шмат карысных сваіх сокаў для твайго організму. А з гэтай прычыны трэба мець добрыя, здаровыя зубы. А каб мець такія зубы, патрэбна кожны дзень глядзець за сваімі зубамі, вымываць іх, паласкаць, чысьціць. Калі-ж зубы ў цябе пачнуць загніваца і забольваць—хутчэй зьвяртайся да доктара.

Трымаючы заўсёды сваё цела ў належнай чыстаце, ты ня толькі захаваеш сябе ад розных заразных хвароб, але і загартуеш сваю скуру шляхам умываньняў і штодзённых абціраньняў.

## Чысьць адзежу.

Але трэба помніць, што аднаго догляду за сваім целам мала. І вось чаму: калі ты на чыстае цела адзенеш бруднае адзеньне, бялізну, або ў памяшканьні тваім будзе брудна—уся твая праца прапала.

Ты павінен прывучыць сябе кожны дзень чысьціць шчотачкаю, або выбіваць палкаю сваю верхнюю адзежу (толькі ня ў хаце чысьціць, а ў калідоры ці на двары).

Тое-ж самае рабі і з абуткам.

Споднюю бялізну трэба мяняць кожны тыдзень. Кладучыся спаць, лепш усяго зусім скідаць на нач бялізну. Цела тваё лепш зможа аддыхаць за ноч, а бялізна праветрыцца.

## Глядзі за чыстатою ў сваім пакоі.

Цяпер зьвярні ўвагу на свой пакой, у якім ты жывеш. Пакой твой павінен быць чыста выцерты мокрай анучкаю, паветра заўсёды павінна быць сьвежай, а для гэтага трэба кожны раз рана і ўвечары адчыняць фортачку або вакно.

Гэтыя правілы цьверда запомні і выконвай на кожным кроку, наглядай за сваімі таварышамі, як яны іх выконваюць, і напамінай іх ім, калі забудуцца.

## Як ты павінен трымаць сябе ў грамадзе.

Цяпер пагутарым, як ты павінен сябе трымаць у вакольным жыцьці грамады.

Перш за ўсё—вуліца. Ты павінен прывучыць сябе дыхаць толькі праз нос, адвыкнуць пляваць, бо гэтым ты можаш разносіць заразу на сваіх таварышоў, калі сам на што небудзь хварэеш. Затым трэба старацца не рабіць сьмецьця, дзе гэта ня трэба, ня піць сырой вады, ня піць ахалоджаных напіткаў і разагрэўшыся ня еш марожанага. Пры хадзьбе падымай вышэй ногі, каб ня пыліў на ўсю вуліцу, як будзеш цягнуць нехаця свае ногі.

*Школа.* Сам глядзі заўсёды за тым, каб у клясе была чыстая паветра. Калі дзяжурны забыўся адчыніць фортачку—адчыні сам, або напомні яму аб гэтым. Не падымай у клясе пылу, дзяля чаго ня дурэй і ня бегай. Гуляць з таварышамі лепш усяго ў часе пераменкі на двары, дзе чыстая паветра, і ты зможаш аддыхаць, набрацца сьвежай сілы.

За скамейкаю ня можна сядзець скрыўленым убок, або апірацца грудзямі на скамейку, пахіліўшыся да кніжкі. Гэткае сядзеньне вельмі шкодна адбіваецца на тваім здароўі і організьме. Сядзець трэба роўна.

Чытаючы кніжку, адучыся сьлініць пальцы, калі пералістваеш старонкі. Кніга твая не заўсёды можа быць чыстай. Яна абходзіць шмат рук. Пералістваць кнігу лепш усяго сухімі рукамі.

На гэты раз запомні толькі ўсё, што мы з табою гаварылі і хваціць.

Працяг сваёй гутаркі адложым на другі раз.

**Лукашэвіч.**



# ЧЫРВОНЫЯ ЗОРКІ.

## МІХАЛКА ПАСТУШОК.

*(Апавяданьне).*

Старая сялянка Агапа з сваім сынам ішлі дамоў з лесу. Несьлі яны за плячыма сухое гальлё. Несьці было ня лёгка: як параўняліся з краем лесу—селі адпачываць. Перад імі, як на далоні віднелася мястэчка Капыль і іх хата. Недалёка ўжо заставалася да хаты, але вязка гальля даволі нарэзала плечы. Трэба было аддыхаць.

— Глядзі, Міхалка, якая ўжо вялікая зялёная трава. Хоць заўтра вазьмі ды й гані карову ў поле,—абазвалася матка да сына.

Міхалка падумаў трохі і адказаў.

— А так, мамка, карова наша стаіць амаль-што галодная. Я заўтра паганю.

— Добра, добра, сынок, ужо пара. Мяне гэта цешыць. Вось толькі ня ведаю, што рабіць з Рыгорам Канцавым ды Арынаю Вірлавокаю—яны мяне вельмі прасілі, каб мы занялі іх каровы.

— Памойму, можна заняць, бо ўсё-ж роўна я буду сваю пасьвіць. За тры іх каровы заробім некалькі рублёў,—адказаў Міхалка, і сваімі словамі пацешыў старую матку.

Пасьля доўгай гутаркі разважаньняў парашылі заняць карову Рыгора, Арыны і Міхася Тычыны.

— Заўтра паганю.

Быць пастушком Міхалка баяўся. Цяжкія ўмовы пастушка (прыдзецца і недаспаць, і на дажджы пагалець).

Але гэта нічога. Беднасьць і сіроцтва загартавалі Міхалку з малых гадоў. Чатыры гады ён ужо жыве бяз бацькі. Міхалка прывык да ўсяго, як да радасьці, так і да гора. Дзе толькі дазвалялі яго сілы, ён стараўся дапамагчы сваёй старой матцы. Ужо пачало цямнець, як Міхалка з маткаю прышлі да хаты.

Ноч расьцілала сваю чорную коўдру, ды белы туман, нібы дым разпоўзваўся па зямлі. Паказаліся зоркі, і праз некалькі хвілін усё неба выглядала, нібы рэшатам ад гэтых зорак.

Міхалка лёг спаць. Але думкі аб тым, як ён заўтра пагоніць ужо каровы, доўга яшчэ ня пакідалі яго. Не хацелася спаць. Ля рэчкі непадалёку сьпяваў салавей. Міхалка ўсё слухаў яго дзіўную песьню. Нарэшце сон змарыў яго.

Яшчэ сонца сваімі праменьнямі ня зьлізала начную вільгаць, як Міхалка ўжо быў на нагах. Ён не забыўся, што яму сёньня трэба гнаць каровы на пашу. Хутка пасьнедаў, ускінуў торбу праз плячо і вышаў на двор.

Сонца ласкава глядзела на зямлю ды сваімі праменьнямі разганяла белы туман. Лёгкі ветрык чуць-чуць трос верхавіны бярэзін... Пелі птушкі сярод разьвесістых ветак белай бярозкі, што пад вакном расла.

Матка выгнала сваю карову з хлява і выправіла Міхалку за вароты.

Павольна, не сьпяшаючыся гнаў Міхалка каровы за мястэчка. Бязьмежная прастора зялёнага жыта палоскамі цягнулася к бору, а з другога боку дарогі стаялі задумённа могілкі. Каля могілак на папары супыніўся Міхалка з каровамі. Чакаў мо' яшчэ хто прыгоніць. Пачакаўшы, стаў пускацца па напрамку лесу.

Далёка адагнаўся ўжо Міхалка ад мястэчка. Азірнуўся назад. І толькі ўбачыў бліскучы крыж касьцёла. Неяк не хацелася зусім адганяцца далей. Ён прыпыніўся і сеў на мяжы ў задуменьні.

Сядзеў на мяжы Міхалка ды пазіраў на мястэчка.

Рагуля, перарвала яго думкі.

— А-а-а. Ку-ды, Рагуля-я!—загукаў Міхалка што было моцы. Рагуля паслухалася і адышла ад жыта.

Было ўжо каля паўдня. Вяснавыя праменьні сонца давалі сябе адчуваць. Хацелася піць як пастушку, так і жывёле. Трэба было толькі вярнуцца трохі назад: у бок дарогі была лагчына, дзе працякала рэчка Каменка. Тут-жа была і крыніца з сьцюдзёнаю халоднаю вадою.

Крыніцу звалі „Варанай“. Хадзілі аб гэтай крыніцы розныя байкі. Міхалка ня раз чуў, як старыя сяляне казалі, што крыніца закрыта юшкаю і калі прабіць яе,—вада затопіць усё мястэчка. Дзеля гэтага трэба было толькі ўзяць вялізны камень, ды бухнуць у крыніцу.

Крыніца кругом абрасла прыгожымі кветкамі. Маленькая рэчка Каменка, што выгля-

дала нясьмела з кустоў, таксама досыць знаёма Міхалку. Вечна ля яе капашыліся сябры Міхалкі. Сам Міхалка ня раз выцягваў з яе ракаў, або лавіў рыбу кошыкам ці вудачкаю.

Вось у гэтую лагчыну і спускаўся Міхалка са сваім стадкам.

Напаіў кароў, напіўся сам і пагнаў у хваёвы лес.

З краю лесу, як на ладоні відаць была яго хата, цэркаў, касьцёл, могілкі і гаразамак.

Каровы ад няма чаго рабіць пачалі лажыцца адна за другой. А Міхалка вясёлым пабег цяпер да гушкалкі, што тут-жа ў хвойніку непадалеку была. Там гушкаліся дзеці багатых жыдоў, і Міхалка пабаяўся ісьці да іх. Ён падышоў на край лесу. Узяў маленькі каменчык, прывязаў на канцы пугі і пусьціў, што было моцы. Каменчык палящеў. Узяў другі, трэці і ўсё пускаў іх па паветры. Потым. як абрыдла гэта, ён пашоў к рэчцы, зрэзаў галіну ад лазы, зрабіў дудку. Міхалка добра мог граць на дудцы. Вечарам, бывала, сядзе на прызьбе каля хаты ды грае на ўсю вуліцу.

— Ты, брат Міхалка, будзеш добрым музыкантам, калі будзеш далей вучыцца,— казалі яму старэйшыя.

Міхалка паіграў трохі ды прысеў каля торбачкі. Ото-ж якая радасьць была ў яго, калі ён убачыў далёка на гары піонэрскі атрад. Стройнымі шэрагамі з песьняю ішоў атрад у лес.

О, як даўно ўжо жадае Міхалка іці побач з сваімі таварышамі ў атрадзе. Але як падумае— ніколі часу няма. Атрад падыходзіў да лесу.

— Здароў, Міхалка, як жывеш?—закрычала некалькі галасоў.

— Ат, нічога сабе... добра. Пасу каровы,—адказаў Міхалка.

— Ну, дык ідзі да нас, будзеш займацца фізкультурай. Хочаш, ці не?

Добра! Толькі не надоўга, пакуль каровы ня ўстануць, — адказаў Міхалка і пабег да піонэраў.

Тое, што рабілі піонэры, рабіў і Міхалка. Пачыналі піонэры пець, і Міхалка падцягваў; займаліся фізкультурай, і Міхалка пробаваў таксама. Але хутка атрад пашоў назад ў мястэчка.

На разьвітаньні піонэры сказалі Міхалку, што яны будуць прыходзіць часта ў лес і будуць з ім тут бачыцца.

* * *

Амаль што кожны дзень прыходзіў атрад у лес. Міхалка стаў прывыкаць да піонэраў. Звычаі піонэраў ён ужо шмат якія ўцяміў. Бывала, ня прыдзе атрад у лес—маркотна зробіцца Міхалку, чуць дзень перацэгае. Стараўся разьвясельваць сябе чым небудзь: то песьню, бывала, запяе, то камень прывяжа к пузе ды пусьціць у паветра, то пачне займацца фізкультурай, як яго сябры—піонэры.

Цэла лета так праводзіў час Міхалка. Некалькі разоў пытаўся і радзіўся з павадыром атраду, каб і яму як стаць піонэрам. Але гэтага зрабіць было нельга, бо Міхалка быў заняты ў полі.

Чакай, брат, да восені, —парадзіў Міхалку павадыр.

Міхалка толькі гэтаю думкаю і жыў усё лета: чакаў восені калі і ён будзе свабодны ад кароў і будзе разам з піонэрамі ў іх шэрагах.

*М. Шкадарэвіч.*

# ЯНКАЎ СОН.

*(Малюнак з натуры).*

Янка—сын беднага селяніна. Яму 8 гадоў. Янка ня бачыў ніколі цэлае вопраткі і ботаў; ходзіць у лапцёх і тыя падраныя.

Увесь зімовы час Янка хадзіў у піонэрскі клюб і так звыкся з ім, што каб хто даў кусочак хлеба пад'есьці, то і начаваў-бы.

Прышоў неяк аднаго разу дадому Янка, зьеў крыху капусты ды лёг спаць. Але доўга ён ня мог заснуць; усё думаў аб нечым. Потым праз сон прамарматаў:

— Вось як добра было-б, каб я гэтакі быў, як Грышка Віктараў! Чаго-б я больш хацеў-бы, запісаўся-б у піонэры і быў-бы тады як усе...—З гэтымі словамі ён заснуў.

І толькі Янка ў першы раз соладка захроп, як пачаў сьніць вельмі радасны для яго

# НАШЫ ПОЭТЫ.

ГЭРЦОВІЧ.

* * *

Юныя дзеці,
Леніна ўнукі. Шмат нас як будзе на сьвеце—
Кончацца мукі.
Трэба цяпер нам вучыцца, трэба
Шчыра за працу—ўсім працаваць!
Толькі навукай зруйнуем мы неба,
Толькі з навукай жыцьцё будаваць.

З. ПІВАВАРАЎ (Чэрыкаў).

* * *

Я піонэр і шчыра веру,
Што блізка, блізка ўжо той час,
Калі Кастрычнік пераверне
Усіх паноў з зямлі зараз.
Тады прыгнечанаму люду
Настане вольнае жыцьцё,
Як ён пазбавіцца ад бруду
Паноў; іх вымяце сьмяцьцём...

Н. ШАКУН (Менск).

* * *

Нас ворагі ўсюды яшчэ абхінаюць,
Няшчасця нам хочуць, канчыны нам ждуць...
Ды нашых братоў комунараў замежных,
Як толькі сумеюць—гнятуць.
І кепска жывецца братом-комуністам
У Польшчы вар'яцкай. Чакаюць падмогу яны.
Ўжо хутка праб'е час вялікі расплаты,
Як рынем за межу ўсе мы...
Але-ж, каб змагчы нашых ворагаў-катаў,
Нам трэба вучыцца, і трэ' працаваць.
Дык дружна-ж у школу, за кніжку, таварыш!
Каб мог у змаганьні і ты памагаць.

сон. Быццам ён у ботах, у вопратцы і павадыром атраду. Спіць, а сьмех па губах так і бегае, а потым, як закрычыць:

— Рыхтуйся, піонэрыя!

Многа ён яшчэ чаго камандзерскага выкінуў. Але як прачнуўся, то нідзе нічога й ня было.

— Гэта ўсяго быў толькі сон,—загаварыў ціха Янка.

Пад паўдня Янка зноў пашоў у клюб і расказаў свой сон павадыру і ўсім піонэрам. Піонэрам стала Янку вельмі шкода, што ён гэткі бедны, бяз сьвіткі й чаравік. І вось на агульным зборы павадыр казаў піонэрам:

— Трэба дапамагчы Янку хто чым можа

— Трэба, трэба!—падхапілі ўсе.

Янка павесялеў. Ніколі ён не сьмяяўся, а як вышаў з клюбу, дык засьпяваў і барджэй да хаты. Бег ён дадому з вялікаю радасьцю. Бацькі ў хаце ня было. Янка ня мог дачакацца таго часу, каб сказаць тату аб гэтым. Але хутка прышоў і бацька. Янка барджэй кінуўся да яго:

— Татка, татка! што я сёньня чуў!

— Што, сынок?—запытаўся ў яго бацька.

— Мне, татка, піонэры пашыюць боты!..

Ну, няхай. Падзякуем ім шчыра.

Доўга не прайшло часу як павадыр, ідучы па вуліцы, зайшоў да Янкі і сказаў:

— Ідзі, брат, у клюбе забяры боты, гатовыя купілі на тваю нагу.

Янка ад радасьці ня ўспеў і шапкі адзець —памчаўся да клюбу.

Цераз пяць хвілін Янка нёс у руках боты. Бацька, як толькі ўбачыў, вельмі-ж абрадаваўся.

— Ня верыў я, але цяпер убачыў, што ўсётакі беднаму чалавеку ўміраць ня прыходзіцца цяпер. Шчыры дзякуй ім, - гаварыў з прыемнасьцю бацька.

Хутка Янка стаў піонэрам, добрым і прыкладным. Янкаў бацька пачаў вельмі паважаць піонэраў, бо ён убачыў, што яны ня ворагі, а добрыя сябры для беднага чалавека і доўга з таго часу стараўся адгоджваць усім піонэрам за іх падарунак сыну Янку.

Піонэр *Алесь Баравік* (13 гадоў).



# ЯК ПРАВЕСЬЦІ ЭКСКУРСІЮ ПА ПРЫРОДАЗНАЎСТВУ.

Кожная экскурсія павінна мець пэўную мэту. Дзеля гэтага трэба, каб кіраўнік экскурсіі папершае азнаёміўся з мясцовасьцю, куды хоча павесьці дзяцей. Перад экскурсіяй трэба з дзяцьмі пагутарыць, каб яны ведалі: куды й дзеля чаго йдуць.

Экскурсіі могуць быць за расьлінамі, жывёлінкамі і горнымі пародамі. Калі экскурсія праводзіцца за расьлінамі, трэба зьвярнуць увагу дзяцей на мясцовасьць, адзначыць якая гэта мясцовасьць: луг, лес, балота і г. д. Трэба запамятаць дзецям з якіх месцаў яны бяруць расьліны: цяністых, ці сонечных, сухіх, ці мокрых, на якой глебе.

Расьліну трэба з зямлі выкапваць асьцярожна ножычкам ці другою востраю прыладаю, каб не папсаваліся карэнчыкі. Калі набралася значная колькасьць расьлін, трэба дзе небудзь прысесьці і заняцца іх дасьледваньнем. Усіх дзяцей трэба падзяліць на групы.

Кожнай групе даць пэўную катэгорыю расьлін. Аднэй даць расьліны, якія растуць на сухім месцы, другой, што растуць на мокрым і г. д. Кожная група павінна добра дасьледаваць усе асаблівасьці кораня, сьцябла й лістоў.

Калі ўсе групы добра пазнаёмяцца з расьлінамі, кіраўнік шляхам пытаньняў тлумачыць дзецям чаму гэта расьліна мае такія асаблівасьці, а ня іншыя.

Далей кожныя дзве групы злучаюцца дзеля таго, каб яны сумесна дасьледвалі розьніцу паміж расьлінамі, якія растуць у розных умовах. Тут таксама кіраўніком даюцца тлумачэньні.

Калі дзеці пакончылі ўжо з дасьледваньнем кораня, сьцябла, лістоў, трэба зьвярнуць іх увагу на цьвяток. Калі дзеці знаёмы з складам яго, неабходна, каб яны назвалі часткі яго і назвалі іх. Калі-ж дзеці яшчэ не знаёмы з цвятком, неабходна кіраўніку з ім азнаёміць дзяцей. Тут можа дапамагчы павялічальнае шкло (лупа).

Пры гэтым, кіраўнік павінен вытлумачыць добра ролю кожнай часткі цьвятка ў жыцьці расьліны. Далей можна сачыць за апыленьнем расьлін. Дзеля гэтага трэба знайсьці некалькі экзэмпляраў цьвяткоў з сьпелымі тычынкамі, дзе маецца ўжо пыльца. Пыльцу гэту трэба высыпаць на далонь і даць дзецям разгледзяць яе праз лупу. Потым павесьці дзяцей на месца, дзе маецца значная колькасьць цьвятоў, разьмясьціць іх і прапанаваць з напружанасьцю сачыць за мошкамі, якія будуць прылятаць на цьвяты. Нагляданьне трэба весьці на працягу 20—25 хвілін у поўным маўчаньні. Дзеці расказваюць, што яны бачылі, а заданьнем кіраўніка зьяўляецца сачыць за тым, каб у нагляданьні ня было апушчана самае галоўнае. Тут-жа трэба растлумачыць дзецям сутнасьць апыленьня і ролю мошак у гэтай справе. Трэба, каб дзеці запамяталі сабе да чаго служыць яскравая афарбоўка і пах цьвятоў.

Зразумела, што можна сачыць за шмат якімі зьявамі. Тут мы даём толькі кароценькія ўказаньні, на якія зьявы перш за ўсё трэба зьвярнуць увагу дзяцей. Усе вышэйазначаныя зьявы павінны быць дасьледаваны на якіх небудзь 8—7 экскурсіях. Дзецям нельга даваць адразу шмат ведаў, бо яны хутка ўтамляюцца. Заўсёды трэба імкнуцца да таго, каб застаўся час дзеля гульняў.

Пажадана, каб дзеці на кожнай экскурсіі бралі з сабой расьліны для гэрбарыя*).

Аб іншых відах экскурсій пагутарым у другі раз.

*Курц.*

АД РЭДАКЦЫІ: Рэдакцыя з свайго боку лічыць, што артыкул т. Курца ня зусім падыходзіць да нашае часопісі.

Але з тэй прычыны, што ў нас, на Беларусі, яшчэ няма пакуль што кіраўнічага органу, мы часткова зьмяшчаем у сваёй часопісі і такія артыкулы, якімі могуць карыстацца, бязумоўна, толькі павадыры атрадаў.

*) Скрынка з засушанымі расьлінамі, дзе падбіраецца шмат розных расьлін (колекцыя).



# НАВІНЫ НАВУКІ І ТЭХНІКІ.

### Трамвай у паветры.

Калі вы былі ў вялікіх гарадох, то, мусіць, бачылі, як лётаюць па вуліцах гораду трамваі, аўтобусы, конкі, мотацыклеты, лісапэды і г. д., і заўсёды поўны людзей. І вось гэтых усіх машын не хапае, каб задаволіць пасажыраў. Пашыраць лік гэтых машын нельга, бо няма дзе і так павярнуцца на вуліцах у горадзе. Людзі пачалі думаць, як тут высьці з гэткага становішча? І дадумаліся.

У 1919 г. адзін францускі вучоны інжанэр падаў ураду свайму проэкт пабудовы чыгунак у паветры. Гэтыя чыгункі будуць прыстасаваны да вагонаў, якія будуць прыводзіцца ў рух пры дапамозе пропэльлераў (як у самалёце).

Пабудова гэтай чыгункі мае наступны выгляд: праз горад у паветры цягнецца роўная лінія дарогі з рэльсамі. Гэта лінія апіраецца на жалезных слупох, якія бываюць вышынёю ў 28,5 мэтраў (40 аршынаў). Трэба заўважыць, што лінія мае ў даўжыню каля 3 з пал. вёрст.

Вагоны гэтага цягніка маюць форму самых простых трамвайных вагонаў. Але толькі верх іх лічыцца нізам. Бо такія вагоны маюць уверсе колы, якія лежаць (лепш усяго вісяць) на рэльсах у паветры і коцяцца пры дапамозе пропэльлера. Пропэльлер прыводзіцца ў рух пры дапамозе паравой машыны.

Шпаркасьць лёту такога трамвая вельмі вялікая. Ад 75 вёрст да 235 у гадзіну.

# ШТО ЧЫТАЦЬ.

**„За власть Советов“. Бібліотэка „Ю П“ Выдавецтва „Молодая Гвардия“. ст. 18. цана 10 кап.**

У гэтай кніжачцы сабраны тры апавяданьні: першае апавяданьне вядомага пісьменьніка А. Серафімовіча аб сыну папа, які зразумеў, што яго бацька—абманшчык, „брахун“; другое—расказ піонэра Васіля аб тым, як школьнікі адамсьцілі адзін раз папу за „калы“ па закону божаму і трэці—расказ піонэра К. Істратава аб хлопчыку Колі, які памог разьведцы знайсьці белагвардзейцаў і вызваліць 20 палонных чырвонаармейцаў, сярод якіх быў яго бацька.

Усе апавяданьні вельмі цікавыя і кароткія: іх можна чытаць на клюбных чытках.

**А. Кожевников. „Аэроплан-Звено“. Бібліотэка „Ю П“. Выдавецтва „Молодая Гвардия“. Стар. 59, з малюнкамі. Кошт—20 кап.**

„Аэроплан-Звено“ гэта аповесьць з лагернага жыцьця піонэраў. Чаго толькі не прарабляла піонэрскае зьвяно „Аэроплан“ у часе жыцьця ў лагеры! І гульні розныя, і расьліны вывучвала, і човен з зельля рачнога выцягнулі, і шмат чаго яшчэ. А самае галоўнае—гэта хаўрус гараду з вёскай узмацнілі.

„Аэроплан-зьвяно“, дапамагло вёсцы за час лагернага жыцьця: дапамагло зьвесьці сена—раз, дапамагло выпалаць беднай дзяўчынцы агарод—два, выкапала канаву на агарод—тры, дало вясковым дзецям бібліотэчку і шмат-шмат чаго прарабіла зьвяно.

Вясковыя дзеці, у асаблівасьці іх павадыр Мішка, моцна зсябраваліся з піонэрамі і шмат чаму навучыліся ад іх.

Вось што павінны рабіць піонэры ў лагеры!

У аповесьці вельмы шмат цікавых і сьмешных момантаў з прыгод піонэраў і іх сяброў: бяспрытульнага Гарпуна і вясковага Мішкі.

Кніжка чытаецца з вялікім захапленьнем.

*Л. Буравін.*

## Адказы нашым дапішчыкам.

*Цярпігораў.* (Крычаў) пытаецца: Ці можа пікор пасылаць у рэдакцыю дописы бяз ведама рэдколегіі атраду.

*Адказ.* Зразумела, можа. Толькі лепш усяго было-б разгледзяць допіс на кор. гуртку. Тады допіс будзе больш грунтоўны і ня выдуманы, як часта здараецца. Але можна і бяз ведама рэдколегіі пасылаць дописы. Рэдакцыя сама разьбярэ, што вы напішаце: праўду, ці няпраўду.

*Яго-ж.* Што рабіць з тым піонэрам, які гуляючы згубіў значок і гальштук?

*Адказ.* Зразумела, гэты піонэр згубіў гальштук і значок выпадкова, сам таго не хацеў. Тады з ім нічога і рабіць ня трэба. А губляць назнарок значкі, здаецца, ніхто ня згодзіцца.

*Яго-ж.* Ці можна бяз марак пасылаць допісы ў рэдакцыю?

*Адказ.* У крайнім выпадку, як зусім няма грошы—можна.

*В. Зарэмба* (вёска Касьцілавічы, Менск. акр.) пытае: Ці можна павадыру атраду комсамольцу насіць значкі піонэрскі, комсамольскі і яшчэ гальштук?

*Адказ.* Калі гэта хочацца яму—дык няхай носіць. Ніхто-ж насіць двух значкоў не забароніць.

*Марскому.* Матар'ял атрымалі. Задачы некаторыя зьмесьцім.

*І. Плаўнаву.* Незразумела аб чым напісана. Пішэце аб працы вашага атраду конкрэтна, што новага і цікавага цяпер сягоньня ў атрадзе, што робіць атрад сягоньня.

*Гінодману.* Спазьнілася. Твая прапанова аб утварэньні цэнтральнай піонэр-газэты ў дадатак да часопісі пярэдана ў ЦБ ЮП.

*Л. Ваўкову.* Задачкі не падыходзяць. У цябе, брат, словы мяшаюцца ў задачах беларускія з расійскімі і затым нельга зьмясьціць.

*Гэрцовічу.* Невядома аб якім атрадзе ты напісаў. Трэба ўказваць надалей аб якім атрадзе, ці школе ідзе гутарка.

*Ясеню.* Надрукавана ў юбілейнай газэце, „Беларускага Піонэра“.

*Каняку.* Ужо позна пісаць аб драматычных гуртком пры школе. Пішы лепш, што робіць цяпер твой атрад.

*Піонэрам м-ка Шалава.* П'еска будзе надрукавана ў чарговым нумары.

*І. Каплану.* „Марш піонэраў“ пераложаны ня зусім удала. Ня пойдзе.

Выданьне: НКА БССР.

Рэдколегія: А. Якімовіч, М. Лабадаеў. П. Хэйфец.




# Жарты, задачы і загадкі.

(Пад рэдакцыяй І. М. Беневоленскага).

## Запытаньні і загадкі.

1. У якім зусім пустым мяшку аднак нешта ёсьць?
2. Што ідзе то ў гару, то ў даліну, то лесам, то полем, але само не кратаецца?
3. З чаго пачынаецца сон і сьмерць?
4. Што пяюць пасьля «Ад веку мы спалі»?..

## Задача № 1.

Ходам каня (шахматы) прачытаць адзін папулярны і вядомы піонэру лёзунг.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | К | | О | | П | І |
| Б | Л | К | М | Э | Е | О |
| | О | С | Р | Б | Н | |
| М | А | | А | | З | А |
| | Ы | С | У | Ь | Н | |
| Х | Е | Р | М | Н | Е | З |
| Т | У | | Е | | М | Ь |

## Шарада.

З «Г» ў вушшу шуміць,
з «Б» вельмі тарахціць,
з «К» зачапіцца можаш,
з «Д» цяпер бачыш.

## Задача № 2.

-- ета —
— бо —
— абі —
— он —
— ага —

Заместа рысак дадаць патрэбныя літары, каб можна было прачытаць 5 слоў, а зьверху ўніз прозьвішчы двух правадыроў пролетарыяту.

## Ж а р т.

(З жыцьця Заходняй Беларусі).

Паненка з брыдкім і страшным тварам, наняўшы хурманку, пытаецца ў хурмана:

— Ваш конь ня выверне: ён не баязьлівы?

— Нічога, сядайце: ён ня будзе назад аглядацца.

## Р э б у с.



Хто першы адгадае, таму высылаецца на адзін месяц часопісь «Беларускі Піонэр».

## Хто разьвязаў задачы з папярэдніх нумароў.

Л. Марскі (Барысаў) разьвязаў шараду ў № 3 (попугай), задачу ў № 4 (салавей, верабей, лесавік, баравік), ребус у № 4-ым (беларускі піонэр) і монограму з № 5 (кот, лот, пот, рот).

# З жыцьця падпольля і партызаншчыны.

*(Успаміны комсамольца Заходняй Беларусі).*

Пасьля доўгай вандроўкі па Сібіры і Маскоўшчыне за час вайны мы сабраліся зноў ехаць на сваю бацькаўшчыну. Мы зьяўляліся ўцекачамі з Заходняй Беларусі. Сям'я наша складалася з 6 ці душ: чатырох братоў і бацькоў. Усе браты пасьпелі за гэты час да 1922 г. пабыць у партызанах на Сібіры. Усе мы прымалі актыўны ўдзел у змаганьні з уладаром Сібіры пасьля рэволюцыі—Калчаком.

Я, праўда, быў самы меншы ад сваіх братоў. Але ўсюдых ішоў разам з братамі. У пачатку 1920 году мы ўвайшлі ўсе ў чатырох у шэрагі Чырвонай Арміі, якая прагнала Калчака з Сібіры.

Служба ў чырвонай арміі цягнулася два гады. І толькі ў 1922 г. мы сабраліся ўсе разам у Менск і парашылі ехаць на сваю бацькаўшчыну.

Бацькі нашы ніяк не маглі згадзіцца спачатку на тое, каб вяртацца ў Польшчу. Неяк страшна было ім за наша жыцьцё..

Але парашылі—паехалі ў сваю Навагрудчыну. Спачатку, як і трэба было чакаць, загадалі нам зьявіцца да пастарунку к комэнданту. Комэндант, як той зьвер, напаў на нас:—чэго пшыехалі, чортавы комуністы?! і г. д. Мы трымалі сябе спакойна і толькі злосьцю шугалі сэрцы... Але што яму зробіш, хоць мы і ў чатырох. Другія спосабы барацьбы патрэбны.

З гэтага часу мы знаходзіліся пад самым пільным наглядам жандармэрыі.

Два разы ў тыдзень трэба было зьяўляцца нам да пастарунку (вучастак), дзе кожны раз нас білі і выпытвалі ці мы комуністы.

Аднаго разу мы не пашлі да пастарунку, за гэта прышлося нам пасядзець тры дні ў турме і атрымаць добра пабоек.

З гэтага часу мы цалкам аддаліся рэволюцыйнай справе. Мы цесна зьвязаліся з рабочымі заводаў і з сялянствам, якое па загаду паноў высякала беларускі лес на патрэбу польскіх акраін. Для беларусаў-жа ніякага лесу не давалі. Усе ўцекачы жылі ў зямлянках.

Праз некалькі часу нашай працы сярод рабочых саюзаў і сялянства ўзьнялася на адным заводзе забастоўка. Сялянства, якое было занятае ў працы па зьнішчэньню свайго лесу, таксама цалкам далучылася да забастоўкі.

Старшынёй забастоўкі рабочыя абралі мяне, ня гледзячы на ўсе крыкі соцыялістых здраднікаў.

Наш бунтоўны завод хутка быў абкружаны паліцыяй. Пачаліся спачатку перагаворы забастовачнага комітэту з паліцыяй. Але нічога з гэтага ня выходзіла. Гаспадар фабрыкі ўсе сродкі і сілы клаў на тое, каб ніякіх уступак рабочым ня даць. Самае галоўнае—разагнаць саюз рабочых.

Рабочыя не згаджаліся на ўступкі з свайго боку. Нарэшце, пасьля ўсялякіх пагроз паліцыі рабочым, гаспадар фабрыкі згадзіўся даць 10% нашых запатрабаваньняў, толькі з умовай разагнаць саюз рабочых. Згоды ня было. Рабочыя на чале з комітэтам цьвёрда стаялі на сваім.

Прайшло некалькі дзён. Гаспадар заводу ўбачыў, што справа выйграна ня будзе—рашыў пайці на згоду. Рабочыя таксама паміры лі ся.

—Усёроўна адзін наш завод нічога ня зробіць. Будзем рыхтавацца, каб ўсім заводам і сялянам разам рушыць супроць гэтых крывапіўцаў,—казалі рабочыя, як згаджаліся распачаць зноў працу.

Наш-жа забастовачны комітэт хутка быў цалкам падхоплены паліцыяй

П.

---

# Да ўвагі піонэраў і комсамольцаў.

Апрача ўпамянутых намі ў папярэднім нумары зборнікаў Маладняка—**вышлі на днях новыя два зборнікі**.

1. **Хурсік Сымон—Першы паўстанак (апав.).**
2. **Якімовіч Алесь—вершы.**

Зборнікі каштуюць усяго **па 15 капеек** кожны

**Піонэры і комсамольцы**! Сачэце за выхадам Маладняцкіх твораў, купляйце і чытайце творы навейшай беларускай літаратуры—Маладнякоўцаў. Творы Маладнякоўцаў як у люстры адбіваюць наша маладое сёнешняе жыцьцё і наша змаганьне за ўладу працоўных ва ўсім сьвеце.

Чытайце і пашырайце сярод сваіх сяброў творы Маладнякоўцаў.

Кожны атрад, клюб, хата-чытальня і бібліотэка павінны паклапаціцца абавязкова набыць бібліотэчку Маладняка, бо выданьне зроблена ўсяго ў ліку 1500 экз. і хутка будзе распрадана.

Кніжачкі прадаюцца ва ўсіх магазынах Беларускага Дзярж. Выд.